

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 3 лістапада 1989 г. № 44 (3506) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Няхай жыве 72-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!



## М. С. ГАРБАЧОЎ:

«...Бо тое, што мы ўкладваем у перабудову, гэта сапраўды па сваіх задумах рэвалюцыйная справа. Рэвалюцыя ў рэвалюцыі — мы так гаворым. І гэтым самым хочам падкрэсліць, што, па-першае, сённяшняя перабудова — гэта працяг справы Кастрычніка, гэта пацвярджэнне ў новых гістарычных умовах таго выбару, які быў зроблены ў 1917-м пад кіраўніцтвам Леніна, партыі бальшавікоў. З другога боку, глыбіня змен, якія адбываюцца сёння, абнаўленне нашага сацыялістычнага грамадства носяць характар рэвалюцыйны».

(З выступлення на сустрэчы з супрацоўнікамі газеты «Правда» 23 кастрычніка г. г.).

## *РЭВАЛЮЦЫЯ*

Рэвалюцыя ў рэвалюцыі,
Дзён кастрычніцкіх яснацвет —
Дэмакратыя, Канстытуцыя,
На пасад узыходзіць Савет.

Зноў ідзём мы ад велічы
Леніна,
Ад яго лёсаносных ідэй,
Зноў планета пад сонцам
заселена
Вальнадумствам вольных
людзей.

Як калісьці, растуць
барыкады —
На рашучы ўзнімаемся бой

За вяртанне Савецкай улады,
За вяртанне мовы сваёй,

За свабоду, за лепшую долю,
Супраць крыўды, падману,
хлусні,
За жыццё, за сапраўдную волю,
За святое святло дабрыні.

Веру — праўда застой
пераможа,
Бо яна — наша зорка і сцяг.
Знішчыць стан ліхвяроў варожы
Рэвалюцыі нашай працяг.

Міхась КУЛІНКОВІЧ.

г. Беразіно.

## Бацькаўшчына ўшаноўвае

Ігнат Дварчанін... Гэтае імя справядліва стаіць у шэрагу выдатных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху і культурнага адраджэння Заходняй Беларусі. Літаратуразнавец, паэт, грамадскі дзеяч, доктар філасофіі, ён усё сваё жыццё прысвяціў роднаму народу. І. Дварчанін уваходзіў у галоўную ўправу Таварыства беларускай школы, з'яўляўся адным з арганізатараў, намеснікам старшыні рэвалюцыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызваленчай арганізацыі «Змаганне». Арыштаваны за рэвалюцыйную дзейнасць, у 1930 годзе быў асуджаны на восем гадоў турмы. У выніку абмену палітвязнямі І. Дварчанін прыехаў у Савецкі Саюз. На жаль, нядоўгім было яго жыццё ў Краіне Саветаў: як і многія іншыя выхадцы з Заходняй Беларусі, ён загінуў у гады сталінізму.

...На сваю родную Дзятлаўшчыну І. Дварчанін *вярнуўся* цяпер, у дні, калі мы адзначаем 50-годдзе ўз'яднання Заходняй Беларусі з Савецкай Беларуссю. На цэнтральнай плошчы райцэнтра паўстаў бронзавы бюст адважнага рэвалюцыянера, выкананы скульптарам У. Летуном.

На адкрыццё помніка сабраліся сотні людзей з Дзятлава, навакольных вёсак. З блізкіх і далёкіх кутКоў Гродзеншчыны прыехалі ветэраны Кампартыі і камсамола Заходняй Беларусі, людзі, якія ведалі І. Дварчаніна, вучыліся ў яго, калі ён настаўнічаў, працаваў у гімназіі, а таксама ягоныя сваякі.

Мітынг адкрыў старшыня выканкома гарпасялковага Савета П. Кучынскі. Сакратар Дзятлаўскага райкома партыі Я. Вырко нагадаў асноўныя этапы жыцця і рэвалюцыйнай дзейнасці земляка. Пра ролю І. Дварчаніна ў развіцці нацыянальнай культуры, яго літаратурны талент расказаў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Ветэраны КПЗБ М. Макулік, У. Петрыкевіч, П. Верабей, кампазітар А. Шыдлоўскі згадалі аб сваіх сустрэчах з І. Дварчанінам. Свой верш, прысвечаны яму, прачытаў настаўнік беларускай мовы і літаратуры Раготнаўскай школы М. Грышан. Кампазіцыю з твораў І. Дварчаніна выканалі вучні Дзятлаўскай СШ № 1 Юра Ляўшук, Оля Губар, Лена Ляўкевіч. Са словам падзякі да прысутных звярнуўся пляменнік рэвалюцыянера, дацэнт Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута Я. Місарэвіч.

У раённым Доме культуры прайшоў вялікі літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 50-годдзю ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. На ім выступілі У. Калеснік, А. Іверс, В. Адамчык, В. Шымук.

П. ЛІПАЙ.

## ДАЛЯГЛЯДЫ МУЗЫЧНАЙ ТВОРЧАСЦІ

31 кастрычніка распачаў работу X з'езд Саюза кампазітараў БССР.

Вынікі працы саюза за мінулыя 5 гадоў і перспектывы яго арганізацыйнай і творчай дзейнасці; мастацкі ўзровень канцэртных *праграм і праблемы* прапаганды беларускай музыкі; пераход на новыя ўмовы гаспадарання і павышэнне аўтарытэту супольнасці нашых кампазітараў. Пра ўсё гэта разважаюць сёння ўдзельнікі чарговага форуму кампазітараў і музыказнаўцаў рэспублікі.

На першым пленарным пасяджэнні *прагучалі* справаздачныя даклады праўлення СК БССР (прамоўца — яго старшыня І. Лучанок), праўлення беларускага аддзялення Музфонду СССР (прамоўца — старшыня праўлення В. Войцік) і рэвізійнай камісіі (старшыня К. Цесакоў). На парадку дня было таксама прыняцце статута СК. Аднак распачатая дыскусія па прапанаваным праекце гэтага дакумента і адсутнасць кворуму пры галасаванні вымусілі дэлегатаў з'езда перанесці абгаварэнне статута на іншыя дні.

Заключнае пасяджэнне — са спрэчкамі па дакладах і творчай дыскусіяй — абвешчана на 5 лістапада. Тады ж маюць адбыцца і выбары новага складу кіруючых органаў саюза. А пакуль тройчы на дзень, змяняючы адно аднаго, праходзяць канцэрты, музычныя спектаклі. З праграмамі з'езда знаёмяцца і ягоныя госці — дзеячы філарманічных і кампазітарскіх арганізацый, прадстаўнікі музычнай журналістыкі, нотных выдавецтваў, радыёвяшчання з Масквы і Ленінграда, Кіева і Харкава, Львова і Данецка, Баку і Душанбе, Алма-Аты і Ерэвана, Новасібірска і Краснаярска, з братніх краін — Венгрыі, Балгарыі, Польшчы.

З часам «ЛіМ» больш падрабязна раскажа пра работу X з'езда СК БССР.

НАШ КАР.



## ГОСЦІ ПІСЬМЕННІКАЎ — РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ

Міністэрствам культуры БССР была арганізавана вучоба загадчыкаў аддзелаў культуры рай- і гарвыканкомаў. Па выніках яе быў праведзены «круглы стол» на тэму «Шляхі ўдасканалення дзейнасці клубных установаў і бібліятэк, арганізацыі адпачынку насельніцтва сродкамі культурна-асветніцкай работы і кіно».

У Доме літаратара адбылася сустрэча загадчыкаў аддзелаў культуры з пісьменнікамі, на якой выступілі Н. Гілевіч, А. Жук, Б. Сачанка, С. Законнікаў, Т. Бондар, В. Адамчык, В. Блакіт і інш. Пісьменнікі расказалі пра актуальныя пытанні развіцця нацыянальнай мовы і культуры, падзяліліся сваімі планамі на будучае.

На здымку: у час сустрэчы ў Доме літаратара. Загадчык аддзела культуры Пастаўскага райвыканкома Н. БУЛАВІНЦАВА, загадчык аддзела культуры Дзятлаўскага райвыканкома Л. ГАЙДУК, В. АДАМЧЫК, загадчык аддзела культуры Докшыцкага райвыканкома У. ПУСТАШЫЛА, С. ЗАКОННІКАЎ, загадчык аддзела культуры Драгічынскага райвыканкома З. КРАЎЦОВА, А. ЖУК.

НАШ КАР.

## Выбары і наш выбар

# Наш шлях, наш грунт

***Выступленне Ніла ГІЛЕВІЧА на XII сесіі Вярхоўнага Савета БССР***

нас ідуць наконт выбараў ад грамадскіх арганізацый. Пытанне гэта няпростае, і на першы погляд ёсць многа «за»— довадаў у карысць такіх выбараў. І аднак жа калі ўдумацца... Паставім пытанне так: чаму ўзнікла сама ідэя выбараў ад грамадскіх арганізацый? Адказ, відочна, адзін: каб гарантаваць выбранне тых, каго хацелася б бачыць у Вярхоўным Савеце. Іначай сказаць,—каб назначыць пэўных асоб у дэпутаты, як гэта рабілася ўвесь час раней, калі выбары былі, па сутнасці, фікцыяй. Вось гэтых, маўляў, «пусцім» па прафсаюзах, вось гэтых — па Камітэту міру, вось гэтых — па Камітэту жанчын і г. д. У аснове такога назначэння ў дэпутаты—боязь, што іначай некаторыя заслужаныя людзі—партыйныя, савецкія і грамадскія дзеячы, гаспадарнікі, рабочыя, хлебаробы, людзі іншых розных прафесій—могуць не прайсці. А замест іх могуць прайсці крыкуны, дэмагогі, палітыканы і на іх падобныя. Я хацеў бы спытаць усіх прысутных: ці не перабольшаны гэты страх? Па-першае, пэўная колькасць дэмагогаў і палітыканаў усё роўна пройдзе — да іх паслуг 240 выбарчых акруг, так бы мовіць, 240 вакантных месц. Некалькі месц з гэтых 240 яны захопяць. Абавязкова! Хаця б таму, што ў іх будзе багата часу, каб ваяваць за мандат. Пакуль рабочы або аграном, ці старшыня калгаса, ці сакратар райкома будзе думаць, як бы вырвацца хоць бы на адну сустрэчу з выбаршчыкамі, гэты самы дэмагог-кар'ерыст за дзень выступіць 9—10 разоў і з дапамогай хаўруснікаў навярбуе шмат галасоў. Але калі ён сапраўды хітры дэмагог і не больш—ён будзе хутка выкрыты, у тым ліку і тут, у гэтай зале, бо тут будзе пераважная большасць людзей дастойных, годных высокага звання народнага дэпутата рэспублікі. Дык ці трэба, я паўтараю пытанне, баяцца, што пройдзе некалькі недастойных? Па-другое, ці такі апраўданы страх, што не будуць выбраны заслужаныя людзі — асабліва партыйна-савецкія работнікі? Напэўна, сёй-той можа не прайсці, не быць выбраным, напэўна. Але тыя, што відочна гараць, як мы кажам, на рабоце, каго людзі паважаюць, цэняць і нават любяць за чалавечыя і дзелавыя якасці, — тыя, напэўна, пройдуць. Учора і сёння ці мала партыйна-савецкіх работнікаў выступіла тут, з гэтай трыбуны,—я слухаў іх шчырыя, ад сэрца, разумныя прамовы і, трохі ведаючы пра іх дзелавыя якасці, думаў аб тым, як многа ў партыі людзей, якім выбаршчыкі акажуць давер, выберуць.

Мне можна запярэчыць, што я недаацэньваю сілу і здольнасці дэмагогаў. Не спяшайцеся. Я «высока» цаню іх здольнасці. Не раз іх на сваёй скуры адчуў. І аднак жа давайце лепш думаць пра свае здольнасці, і вышэй цаніць свае магчымасці. І не проста лепш думаць, а лепш мабілізоўваць свае магчымасці на барацьбу з дэмагогіяй. Я думаю і прашу вас усіх падумаць вось над чым: калі сесія ўзаконіць выбары ад грамадскіх арганізацый — гэта будзе скарыстана пэўнымі сіламі супроць партыі і Савецкай улады. Яшчэ з большай лютасцю загучаць галасы: ага, вось бачыце! Баяцца бюракраты народа! Назначаюць самі сябе ў дэпутаты асобна! І на маю думку, партыя і наогул здаровыя сілы нашай грамадскасці панясуць, у такім выпадку, на выбарах большыя страты.

Праўда, я не чакаю і таго, што калі мы адхілім выбары ад грамадскіх арганізацый, дык у рэспубліцы, як тут было заяўлена адным таварышам, адразу ж значна стабілізуецца палітычная сітуацыя. Думаю, што нічога падобнага не адбудзецца. Разнамасныя псеўдадэмакраты актыўна возьмуцца за работу. Але маральная перавага будзе на баку партыі і Савецкай улады, якая прыняла дэмакратычны закон аб выбарах па акругах і толькі па акругах.

Цяпер я хацеў бы трохі сказаць аб тым, што мяне найбольш засмуціла і на нядаўніх выбарах народных дэпутатаў СССР і, прадчуваю, можа, не менш засмуціць на выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі. Вельмі прашу паверыць, што буду гаварыць не як асабіста пакрыўджаны—няма мне ўжо калі пра асабістыя амбіцыі думаць, ды і ніколі раней часу на гэта ў мяне не заставалася. Я прасіў бы тых, хто будзе пляскаць у ладкі, калі выбары ад грамадскіх арганізацый сесія адхіліць, не ўпадаць у эйфарыю. Асабліва я прасіў бы не радавацца прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Як вядома, у народныя дэпутаты СССР ад тэрытарыяльных і нацыянальных акруг Беларусі не прайшоў ні адзін дзеяч беларускай нацыянальнай мастацкай культуры. Ні адзін! Для параўнання: у невялікай Літве толькі пісьменнікаў выбралі ў народныя дэпутаты СССР дзевяць чалавек—толькі пісьменнікаў, не кажучы пра мастакоў, кампазітараў, артыстаў і інш. У маленькай Малдавіі — толькі пісьменнікаў выбралі восем чалавек. Падобная карціна і ў некаторых іншых рэспубліках. А ў нас—па акругах — не выбралі ніводнага дзеяча беларускай літаратуры і мастацтва! Так мы ў Беларусі прагаласавалі за нацыянальную мастацкую культуру. Такія нашы адносіны да сваёй культуры, да культуры наогул. І пры такіх адносінах мы хочам будаваць культурнае, цывілізаванае сацыялістычнае грамадства. Грамадства, у якім павінны быць высокі ўзровень маралі і этыкі, эстэтычнай культуры, духоўнасці ў цэлым; грамадства, якое павінна вызначацца інтэлігентнасцю сваіх грамадзян. Не можа наша рэспубліка разлічваць на сапраўдны эканамічны, сацыяльны і культурны прагрэс, пакуль у нас будуць такія адносіны да нацыянальнай культуры, да беларускай мовы і літаратуры, да беларускага мастацтва, да культуры наогул. Зрэшты, праблема гэта ўсесаюзная. Была б у краіне на належным узроўні культура — не было б чарнобыльскай аварыі. Чарнобыль—гэта антыкультура. Чарнобыль — гэта амаральнасць. Чарнобыль — гэта безадказнасць, гэта разгільдзяйства, гэта нечалавечнасць!

І так атрымалася, што на З'ездзе народных дэпутатаў, і на сесіях Вярхоўнага Савета СССР аб праблемах беларускай нацыянальнай культуры, беларускай мовы сказаць няма каму—нікому не баліць! Як і на пленумах ЦК КПСС—таксама. Як быццам у нас такіх праблем няма, хоць яны ў нас вастрэйшыя, чым у іншых рэспубліках. Аб культуры гавораць у Крамлі рускія, украінцы, латышы, грузіны, армяне, а беларусы маўчаць. І наогул маўчаць. Сядзяць і маўчаць. Слухаюць. Добрых слухачоў мы выбралі ў Вярхоўны Савет краіны! А за беларускую культуру і мову змагаецца, дзякаваць яму, Барыс Алейнік.

Дык вось, на выбарах народных дэпутатаў СССР беларуская культура даверу ў сваім жа беларускім народзе не заваявала. Ці зменяцца да яе адносіны на выбарах у Вярхоўны Савет БССР? Баюся, што і на гэтых выбарах дзеячам нашай літаратуры і мастацтва нічога не свеціць. Асабліва, калі яны на сустрэчах з выбаршчыкамі будуць гаварыць па-беларуску і горача агітаваць за адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, за выратаванне беларускай мовы і наогул за істотнае павышэнне статуса суверэннасці нашай рэспублікі. Помню, як мне на такіх сустрэчах з выбаршчыкамі нецярпліва крычалі з залы: «А зачем? Зачем это нужно?!». Хачу вам сказаць— пра гэта я нідзе дасюль не гаварыў,—што свой перадвыбарчы марафон у сакавіку месяцы я да канца не прайшоў: пасля сямі-васьмі сустрэч сышоў, як то кажуць, з дыстанцыі, фактычна адмовіўся ад гэтак званай барацьбы за мандат; на шчасце, спатрэбілася паехаць у Маскву на пленум Саюза пісьменнікаў СССР, што вызваліла мяне ад далейшых пакут, ад абраз і прыніжэнняў. Пра якія абразы і прыніжэнні гаворка? Не маю часу ды і не лічу патрэбным пра гэта расказваць. Калі хто з сумленных беларускіх пісьменнікаў будзе на выбарах у Вярхоўны Савет БССР балаціравацца ў Мінску — той, напэўна, зведае і спазнае перажытае мной не менш за мяне. Адно скажу, дам вам параду: калі хто хоча прайсці ў дэпутаты — старайцеся, каб вашым супернікам-канкурэнтам быў беларускі пісьменнік: амаль поўная гарантыя, што пераможаце.

Чуў меркаванне: на выбарах кандыдат павінен быць байцом і змагацца да канца. Вядома, павінен. Толькі—якімі спосабамі і сродкамі змагацца? Спекулятыўна даваць абяцанні, якія заведама не здзейсняцца? Арганізаваць грамаду ўдальцоў, якая на другі ж дзень пазрывае ўсе плакаты твайго канкурэнта, як гэта было ў выпадку са мною, а на сходзе будзе прыніжаць яго нетактоўнымі пытаннямі і рэплікамі? Як то кажуць, выбачайце! Кожнаму сваё. Калі інтэлігентны чалавек стане на такі шлях—чым жа ён будзе адрозніваца ад таго самага палітыкана, дэмагога і цыніка? На гэткім шляху і да палітычнага гангстэрызму недалёка. Але, па-мойму, мы, савецкія людзі, не такімі бачым наш лад і вырашэнне палітычных праблем. Мы не трацім і, спадзяюся, не страцім веры, што наш шлях іншы—і іншы маральны грунт, хоць і паточаны чэрвямі антысацыялізму. Грунт, на якім стаіць працоўны народ рэспублікі.

Прапанова выбіраць ад грамадскіх арганізацый, можа быць, і не выклікала б такога супраціўлення, калі б яна была больш прадуманай, але ў нас яна пададзена, выбачайце, у нейкай выродлівай форме. Колькасць грамадскіх арганізацый, якія могуць мець свайго дэпутата, да смешнага вялікая. Нават філатэлісты не забыты! Хай бы мы ўжо не смяшылі людзей і больш паважалі сябе. Але вось—творчыя саюзы рэспублікі. На восем творчых саюзаў адпушчана шэсць мандатаў. Таварышы! Творчы саюз—гэта не грамадская арганізацыя. У грамадскую арганізацыю — хто захацеў, той і ўступіў, ці, *прынамсі, калі вельмі* захоча і пастараецца. У творчы саюз—на работу пісьменніка, мастака, кампазітара — назначае *толькі* сам Бог! І вось: на восем творчых саюзаў — шэсць мандатаў. Значыць, скажам, ад Саюза пісьменнікаў *можа не* аказацца ніводнага дэпутата. Так што хоць круцьверць, хоць верць-круць, у любым выпадку роля прадстаўнікоў *нацыянальнай* мастацкай культуры ў Вярхоўным Савеце рэспублікі звядзецца на нішто. Могуць сказаць: а колькі вы хочаце? Рабочых у Беларусі мільён, сялян—мільён, служачых—мільён, лічбы я называю прыблізна, а вас—колькі? Дарагія таварышы, колькасны прынцып тут не падыходзіць. Так, у мастацкай творчасці— на фоне тых мільёнаў—працуе людзей нямнога. Але паспрабуйце выкінуць з нашага жыцця кнігу, музыку, тэатр, кіно, мастацкую выстаўку? І ўявіць такое немагчыма. Грамадства пакрылася б карой маральнай глухаты, хаця ў нас і так з маральнасцю вельмі кепска.

# ПЕРАМАГАЕ ЗДАРОВЫ СЭНС

**Пасля сесіі Вярхоўнага Савета БССР**

ся схаванай ад многіх дэпутатаў. Вось якія лічбы назваў прамоўца. 98 працэнтаў аўтараў 66 тысяч прапаноў, што паступілі ў рабочую групу Прэзідыума Вярхоўнага Савета, выказаліся супраць выбараў дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый; 84 працэнты — супраць правядзення перадвыбарчых акруговых сходаў; 99 працэнтаў — за абавязковую альтэрнатыўнасць выбараў.

Чаму гэтая статыстыка не была ўлічана ў дакладзе? Чаму Вярхоўнаму Савету было прапанавана не толькі ўключыць у выбарчыя законы ўсе названыя вышэй палажэнні, але і павялічыць квоту грамадскім арганізацыям з адной чвэрці, як было ў праекце, да адной трэці дэпутатаў? Цяжка сказаць. Тым больш, што лічбы, названыя Г. Ерамеевым, нікім не былі абвергнуты. Проста, відаць, не для ўсіх былі прымальнымі агульнадэмакратычныя нормы прадстаўніцтва ў вярхоўным органе ўлады. Гэта паказала і палеміка, якая разгарнулася на сесіі вакол выбарчых законаў.

Сёй-той з прамоўцаў не абцяжарваў сябе пераканаўчымі доказамі, у ход пускаліся аргументы, на маю думку, разлічаныя на недасведчанасць некаторай часткі залы, «доказы», якія мелі на мэце пераканаць прысутных, ды і наогул грамадскасць рэспублікі, у зланамеранасці пэўных грамадскіх сіл, якія, маўляў, імкнуцца захапіць уладу.

**«Ідзе жорсткая барацьба за палітычную ўладу,—гаварыў у сваёй прамове дэпутат М. Саўчанка.—І таму да канчатковага яе зыходу палажэнне аб выбарах ад грамадскіх арганізацый павінна захоўвацца ў заканадаўстве... Гэта дапаможа звузіць фронт барацьбы экстрэмісцкіх сіл і даказаць свае партыйныя пазіцыі».**

**«Як грамадзянін і камуніст я перакананы, што прадстаўніцтва грамадскіх арганізацый неабходнае. Дзеля таго ж плюралізму, у вернасці якому клянуцца праціўнікі партыі. Дзеля сённяшняга і будучага дня беларускага народа, якому дэмакратыя, безумоўна, неабходная. Але, паўтараю, дэмакратыя, а не ўлада натоўпу». Гэта — з прамовы дэпутата І. Машко.**

**А вось яшчэ. «Па-экстрэмісцку настроеным элементам удалося прыцягнуць на свой бок пэўную частку насельніцтва...», — гаварыў дэпутат Я. Касцюковіч.**

Слухаў я гэтыя прамовы і *думаў: дзе іх аўтары* сапраўды вераць у тое, што гавораць, дзе гавораць тое, што трэба гаварыць, а дзе крывяць *душой, фальшывяць прынародна?*

Супраць выбараў дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, правядзення акруговых сходаў, за забеспячэнне альтэрнатыўнасці выбараў выступіла большасць дэпутатаў. Сярод тых, хто выступаў за захаванне дэмакратычных выбараў, былі народныя дэпутаты СССР С. Шушкевіч, В. Карніенка, дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР Г. Бураўкін, У. Кавалёнак, В. Кушнір, Я. Кавалеўскі, Р. Янкоўскі, В. Маслакоў і іншыя.

**«Чаму ў рамках Канстытуцыі павінны быць дзве выбарчыя сістэмы?—пытаўся дэпутат П. Васільеў. — Мне думаецца, трэба дабівацца не выбараў ад грамадскіх арганізацый, а надаць асаблівую ўвагу падбору дастойных кандыдатаў».**

**«Для мяне непрымальнай з'яўляецца ўжо сама думка, што камуніст, выбраны па тэрытарыяльнай акрузе, будзе горш адстойваць інтарэсы партыі, народа, чым яго таварыш, абраны ад КПБ»,—гаварыў дэпутат Г. Бураўкін.**

**Дэпутат Т. Бязручка зачытала тэкст рэзалюцыі, прынятай прафсаюзнай канферэнцыяй навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл», дзе яна працуе. У рэзалюцыі гаварылася аб непрыняцці рабочымі такіх антыдэмакратычных палажэнняў, як прадстаўніцтва ў Вярхоўным Савеце дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, правядзенне акруговых выбарчых сходаў, выбары па вытворчых акругах. З тым жа звярнуліся да Вярхоўнага Савета рэспублікі пяць тысяч інжынерна-тэхнічных работнікаў і дзве тысячы рабочых канструктарскага бюро дакладнага электроннага машынабудавання праз свайго дэпутата Э. Марцынкевіча...**

Вось *такая яна, сесія...* За выступленнямі асобных дэпутатаў стаяла спроба прадстаўнікоў кансерватыўнай часткі апарату *забяспечыць свой* кантроль на выбарах. І яшчэ год назад тут, у Вярхоўным Савеце рэспублікі, перамагла б іх пазіцыя. Цяпер *яны аказаліся* ў меншасці. Як вядома, сесія большасцю галасоў выключыла з выбарчых законаў такія палажэнні, як прадстаўніцтва ў вярхоўным органе ўлады дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, зрабіўшы выключэнне толькі для чатырох грамадскіх аб'яднанняў—Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы, рэспубліканскіх таварыстваў глухіх, сляпых і інвалідаў. Воляй парламентарыяў скасавана выкладзенае ў праекце закона палажэнне аб акруговых сходах. Праўда, можна паспрачацца аб дасканаласці формулы альтэрнатыўнасці выбараў, якую прыняла сесія: у бюлетэнь для тайнага галасавання можа ўносіцца любая колькасць кандыдатаў, гэта значыць, і адна асоба. Цікава, каму ў такім выпадку пашанцуе?

Неўзабаве пачнецца выбарчая кампанія, вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты. Якой будзе яна, гэтая кампанія? Якімі будуць выбары? Якім будзе ён, наш новы парламент? Дэмакратычным, кампетэнтным, дзелавым ці ў нечым ранейшым, што паслухмяна штампаваў спушчаныя ўказы, законы і пастановы? А народныя дэпутаты? Самастойнымі, прынцыповымі, упэўне-

**(Працяг на стар. 13).**

## *Перабудова і міжнацыянальныя адносіны*

**У нашым штотыднёвіку за 25 жніўня былі змешчаны палемічныя нататкі «Беларусы не выключэнне» вядомага вучонага-мовазнаўцы, доктара філалагічных навук Генадзя Цыхуна. Аўтар палемізаваў з некаторымі публікацыямі, што з'яўляліся апошнім часам на старонках рэспубліканскага друку. У прыватнасці, Г. Цыхун аспрэчваў паасобныя палажэнні артыкула А. Дзмітрука і А. Тозіка «Не толькі крытыкаваць» («Звязда», 27 ліпеня г. г.).**

**А. Дзмітрук і А. Тозік прыслалі ліст у адказ. Падтрымліваючы ідэю плюралізма не толькі на словах, рэдакцыя змяшчае гэты ліст, выкарыстаўшы сваё права пракаменціраваць яго.**

# За новую прыступку дыялога

На старонках «Звязды» намі выказана меркаванне аб тым, што для палемікі па нацыянальных праблемах, што разгарнулася ў рэспубліцы, характэрны, як правіла, толькі крытычны аспект, што ёй не стае комплекснасці і шматграннасці, належнай тэарэтычнай абгрунтаванасці і канструктыўнасці. Прапаноўвалася цэнтр цяжару пераносіць на пошук рэальных шляхоў гарманізацыі нацыянальных і міжнацыянальных адносін, канструктыўнага вырашэння гэтых праблем. У рэчышчы такіх падыходаў намі было выкладзена асабістае бачанне некаторых аспектаў дадзенай сферы грамадскага жыцця.

У ліку новых з'яў, якія заслугоўваюць, на нашу думку, увагі, было адзначана фарміраванне, у працэсе інтэрнацыяналізацыі і інтэграцыі ўсіх сфер жыцця сучаснага грамадства, шматсастаўных нацый. Выказана меркаванне аб магчымасці ў глыбокай гістарычнай перспектыве фарміравання безнацыянальнага чалавечага грамадства, якое ўвабрала ў сябе максімальна поўна рэалізаваны патэнцыял кожнага народа на Зямлі.

Магчыма, нашы аргументы і абгрунтаванні гэтых пасылак недастатковыя. І мы мелі права чакаць, што па згаданых (далёка не бясспрэчных) праблемах могуць быць альтэрнатыўныя меркаванні, пераканаўчыя контраргументы, якія памагаюць узняцца ў дыялогу на новую ступень. Аднак выступленне Г. Цыхуна гэтых спадзяванняў не пацвердзіла. Ягоныя абвяржэнні і доказы звяліся да прыпісанай нам (прычым, як вынікае з кантэксту, у дэфармаваным і вульгарызаваным сталінскім варыянце) формулы аб «зліцці нацый» і заявы: «Адсюль ужо зусім блізка да брэжнеўскай «новай супольнасці людзей» і да «савецкай нацыі».

Ці праяснілі мы ў выніку такой палемікі ісціну, ці ўзняліся на новую прыступку дыялога? Безумоўна, не.

А можа, узнятых намі праблем не існуе і аб іх не трэба гаварыць? Думаецца, што не так.

Доктар філасофскіх навук А. Капто на старонках «Литературной газеты» (6.IX.1989 г.) для тэарэтычнага асэнсавання прапаноўвае, напрыклад, такія пытанні, як:

— дыялектыка адзінства чалавечага роду з яго агульным лёсам і адначасова раз'яднанасцю, што праяўляецца ў тым ліку і ў існаванні нацый;

— усведамленне пастаянна ўзрастаючай цэласнасці чалавецтва садзейнічае пераадоленню аднамернага бачання свету як падзеленага на розныя нацыянальна-дзяржаўныя сістэмы, якія, да таго ж, успрымаюцца часта як супрацьлеглыя.

Тут пазначана агульнасусветная тэндэнцыя збліжэння народаў і нацый, якая ўжо сёння прабівае сабе дарогу на практыцы ў розных рэгіёнах нашай планеты. Нам невядома, як гэтая тэндэнцыя будзе развівацца ў перспектыве, як яна будзе пераламляцца ва ўмовах канкрэтных кантынентаў і краін і які ўплыў будзе аказваць на характар міжнацыянальных адносін. Калі мы хочам заставацца на пазіцыях рэалізму, то ў пошуку адказу на гэтыя далёка няпростыя пытанні павінны прызнаць непазбежнасць розных (магчыма, і дыяметральна процілеглых) канцэпцый, гіпотэз і пунктаў погляду. Катэгарычнае і аднамернае «так» або «не» закрывае шлях да пошуку.

Канструктыўны падыход адсутнічае і ў пярэчаннях Г. Цыхуна супраць нашай прапановы аб прадастаўленні савецкаму чалавеку права нацыянальна-этнічнай самаідэнтыфікацыі на ўзроўні агульнадзяржаўнай супольнасці. У пацвярджэнне, што такі варыянт магчымы, мы спасылаліся, у прыватнасці, на вопыт Югаславіі, дзе ўведзена паняцце — «югаслаў».

На спакойную, лаканічную пастаноўку пытання — «думаецца, што было б правільным прадаставіць кожнаму грамадзяніну СССР права і магчымасць, вызначаючы сваю нацыянальнасць, сказаць: «савецкі», вызначыўшы гэтым словам сваю прыналежнасць да шматнацыянальна - інтэрнацыянальнай супольнасці (а не да «савецкай» нацыі, як сцвярджае Г. Цыхун), паследаваў адказ — абвяржэнне югаслаўскага вопыту, а значыць, яго поўнай непрыгоднасці для нас. Г. Цыхун піша: «Відаць, на думку аўтараў артыкула, гэта самая перадавая частка грамадскасці (тыя, хто запісаў сябе югаславамі. — **Рэд.**), сапраўдныя інтэрнацыяналісты». Прыпісаўшы нам такое бачанне пытання, ён яго абвяргае: «У выніку праведзеных югаслаўскімі сацыёлагамі даследаванняў высветлілася, што часцей за ўсё «югаславамі» запісаліся найбольш адсталыя члены грамадства, людзі з комплексам нацыянальнай непаўнацэннасці (звычайна мігранты з іншых рэспублік, якія выконвалі найменш кваліфікаваную працу, сярод якіх было многа прадстаўнікоў цыганскай і албанскай нацыянальнасці)...» Яшчэ называюцца ваенныя, функцыянеры, гандляры-прыватнікі.

Падобныя доказы не могуць быць прыняты намі па той прычыне, што такая якасць чалавека як інтэрнацыяналізм не залежыць ні ад нацыянальнай прыналежнасці, ні ад характару працоўнай дзейнасці, ні ад прафесіі. Па гэтых жа прыкметах мы не маем намеру адносіць некага да катэгорыі людзей з «комплексам нацыянальнай непаўнацэннасці».

Канечне, права Г. Цыхуна называць паняцце «савецкі народ» брэжнеўскім вынаходніцтвам (гэта яшчэ не самы з'едлівы эпітэт, у друку можна сустрэць і больш хлёсткія). Мы ж лічым і прадаўжаем лічыць, і ў гэтым мы глыбока пераканаем, што гэтае паняцце народжана жыццём. За ім — стагоддзі (стагоддзі!) сумеснага пражывання многіх народаў. На адной зямлі і з агульнай Айчынай. Не думаем, што маюць рацыю тыя, хто глядзіць на нашы сённяшнія праблемы і беды як на тое, што перакрэслівае ўсё, што стваралася стагоддзямі. І яшчэ: перабудоўваць мысленне — гэта зусім не адкідаць **усё**, што назапашана раней. Думаецца, што і ў створанай марксісцка-ленінскай думкай тэорыі нацыі і нацыянальных адносін далёка не ўсё трэба адносіць да рэшткаў «старых дагматычных канструкцый, якія імкнуцца прыстаць да берага сучаснасці і замацавацца на ім».

Хацелася б выказаць сваю думку і па некаторых іншых пытаннях, пастаўленых Г. Цыхуном.

Мы падзяляем яго пункт гледжання аб неабходнасці новай этыкі, якая патрабуе павагі да іншых культур, дапамогі нацыянальным меншасцям у іх барацьбе за выжыванне, яго выснову, што, «на жаль, гэтая новая этыка не зрабілася ўсеагульнай у нас...»

Думаецца, што ў рэчышчы гэтых ідэй можа быць разгорнута цікавая гаворка пра «белыя плямы» ў нацыянальнай культуры і моўнай праблеме, якія ў рэспубліцы на сённяшні дзень яшчэ далёка не закрыты. Мы маем на ўвазе не толькі беларускую мову і беларускую нацыянальную культуру, дзе сёе-тое ўжо робіцца, але і тыя зусім не кранутыя моўныя і культурныя пласты, якія на працягу стагоддзяў ствараліся прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей, што жывуць на тэрыторыі Беларусі. Калі да гэтых пластоў не будзе звернута грамадская ўвага, калі яны не будуць уключаны ў культурны абарот, то і ніва беларускай нацыянальнай культуры і беларускай мовы не зможа даць паўнацэнных усходаў. І клапоцячыся аб апрацоўцы гэтай нівы, мы ўжо сёння не павінны пакідаць за кадрам такія, напрыклад, пытанні, як роля, месца і функцыі рускай мовы ў жыцці рэспублікі, псіхалагічны і маральна-духоўны стан і культурна-моўныя ўстаноўкі той часткі беларусаў, якія назвалі роднай мовай рускую. Трэба было б больш уважліва ўгледзецца ў стан культуры і мовы іншых нацыянальнасцей, якія насяляюць рэспубліку. Ды і пытанні дыялектаў беларускай мовы не такія ўжо беспраблемныя, як гэта выглядае ў некаторых публікацыях.

Думаецца, што ўсе палі шырокай культурна-моўнай нівы трэба апрацоўваць адначасова, з аднолькавым гаспадарчым клопатам і ўвагай. Пры іншых падыходах не пазбегнуць нарастання сацыяльнай напружанасці на нацыянальнай глебе.

**А. ДЗМІТРУК,**
**кандыдат філасофскіх навук.**
**А. ТОЗІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## Ад рэдакцыі

**Імкненне да пошуку «рэальных шляхоў гарманізацыі нацыянальных і міжнацыянальных адносін», якое выказваюць нашы аўтары, нельга не вітаць. Аднак, думаецца, варта нагадаць нашым чытачам, якія канкрэтныя шляхі гэтай гарманізацыі прапаноўвалі яны ў сваёй публікацыі «Не толькі крытыкаваць». Дзеля «канструктыўнага вырашэння» нацыянальных праблем, на думку А. Дзмітрука і А. Тозіка, варта замяніць «старэлае некарэктным паняцце «карэнная нацыянальнасць» на тэрмін «асноўная карэнная нацыянальнасць», прадаставіць грамадзянам СССР «права фіксаваць двайную або трайную нацыянальна-этнічную прыналежнасць», даць права і магчымасць грамадзянам СССР, «вызначаючы сваю нацыянальнасць, сказаць: «савецкі». Дарэчы, самі шаноўныя навукоўцы-тэарэтыкі чамусьці ўносяць блытаніну ў змест апошняга тэрміну: з аднаго боку «савецкі»—вызначае нацыянальнасць, а з другога—«прыналежнасць да шматнацыянальна-інтэрнацыянальнай супольнасці», дык чаго крыўдаваць на Г. Цыхуна, што ён ужывае словазлучэнне «савецкая нацыя», — гэта ж лагічна вынікае з пасылак саміх А. Дзмітрука і А. Тозіка.**

**У платформе КПСС «Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах», прынятай апошнім Пленумам ЦК КПСС, падкрэсліваецца, што «і сусветны, і наш вопыт сведчыць, што нацыянальнае пытанне заўсёды мае канкрэтна-гістарычны змест. Для яго вырашэння няма і не можа быць рэцэптаў прыгодных на ўсе выпадкі жыцця, аднолькавых на ўсіх этапах сацыялістычнага развіцця, для ўсіх рэгіёнаў краіны». Аднак А. Дзмітрук і А. Тозік на гэтае пытанне маюць іншы, адрозны пункт гледжання. У якасці гатовых рэцэптаў яны прыводзяць у прыклад вопыт Югаславіі і ЗША. Відаць, контраргументы ў карысць неадпаведнасці нашым умовам вопыту вырашэння нацыянальнага пытання ў Злучаных Штатах, якія прывёў у сваёй публікацыі Г. Цыхун, падаліся А. Дзмітруку і А. Тозіку пераканаўчымі, бо ў гэтым лісце яны іх не аспрэчваюць. А што да Югаславіі, то тут нашы аўтары доказы Г. Цыхуна «не могуць прыняць», бо, на іх думку, ні нацыянальная прыналежнасць, ні характар працоўнай дзейнасці, ні прафесія—узровень нацыянальнай самасвядомасці не вызначаюць. Аднак, прыводзячы адпаведную цытату з артыкула Г. Цыхуна, А. Дзмітрук і А. Тозік выкідаюць з яе вельмі істотную заўвагу аб тым, што югаславамі запісваліся «тыя, каму па розных меркаваннях не хацелася афішыраваць прыналежнасць да сваёй нацыі ў іншанацыянальнай рэспубліцы...» На жаль, канкрэтна-гістарычны змест нацыянальнага пытання нават у выпадку Югаславіі нашы палемісты ўлічваць не жадаюць.**

**Своеасабліва разумеюць А. Дзмітрук і А. Тозік і «агульнасусветную тэндэнцыю збліжэння народаў і нацый». «Глыбокую гістарычную перспектыву фарміравання безнацыянальнага чалавечага грамадства» яны ўпарта набліжаюць да нашага дня. І сапраўды, каму як не нашай краіне паказваць шлях чалавецтву да прагрэсу... Відаць, на думку аўтараў артыкула, кожны народ, што ўваходзіць у межы Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, ужо максімальна поўна рэалізаваў свой патэнцыял, калі яго шматлікім прадстаўнікам прапануецца сёння ж нацыянальна-этнічна самаідэнтыфікавацца на ўзроўні агульнадзяржаўнай супольнасці. Праўда, уважлівага чытача можа насцярожыць той факт, што Савецкая ўлада існуе трошкі больш за 70 гадоў, а за паняццем «савецкі народ» А. Дзмітрук і А. Тозік бачаць «стагоддзі (стагоддзі!) сумеснага пражывання многіх народаў. На адной зямлі і з агульнай Айчынай». Ці не Расійскую імперыю—турму народаў—яны маюць на ўвазе? Відаць, і гэтае сваё «адкрыццё» паважаныя навукоўцы адносяць не да «рэшткаў старых дагматычных канструкцый», а да «створанай марксісцка-ленінскай думкай тэорыі нацыі».**

**Цалкам падзяляючы трывогу А. Дзмітрука і А. Тозіка за «некранутыя моўныя і культурныя пласты, якія на працягу стагоддзяў ствараліся прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей, што жывуць на тэрыторыі Беларусі», думаецца, больш карэктна было б ставіць пытанне ў першую чаргу не пра рускую мову і культуру, а пра стан культур татарскага, яўрэйскага, украінскага і польскага народаў, якія, стагоддзямі жывучы ў добрым суседстве з намі, не маюць да сённяшняга дня ў нашай рэспубліцы ні сваіх школ, ні газет, ні выдавецтваў, ні тэатраў.**

**Руская мова і руская культура, дзякуй богу, на тэрыторыі нашай рэспублікі не пакрыўджаны. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прайсці па вуліцах нашых гарадоў і мястэчак. Недасведчаныя замежныя турысты так і ад'язджаюць, бывае, дахаты, не знайшоўшы там прыкмет беларускасці... Канечне, тое-сёе робіцца для адраджэння беларускай мовы і культуры, але ж і да гэтага часу ёсць яшчэ досыць вялікая група людзей, якія не лічаць некарэктным і неэтычным жыць у Беларусі, даследаваць нацыянальную культуру і гісторыю, не ведаючы мовы карэннай нацыянальнасці. Яны і зараз працягваюць дасылаць у беларускамоўныя выданні матэрыялы на рускай мове. На жаль, такога выпадку, каб у нашу рэдакцыю трапіў матэрыял на татарскай ці яўрэйскай мове, пакуль яшчэ не было.**

**P.S. Пакуль рыхтаваўся ў друк гэты ліст, у «Звяздзе» (20 кастрычніка) пад рубрыкай «Культура міжнацыянальных адносін» з'явілася чарговая публікацыя А. Дзмітрука і А. Тозіка. Артыкул гэты пад загалоўкам «Без эмоцый і ярлыкоў» ставіць на мэце абгрунтаваць, што «аб'ектыўныя перадумовы, гістарычнае мінулае і перспектывы развіцця рэспублікі... ствараюць рэальную аснову для функцыяніравання ў якасці дзяржаўных беларускай і рускай моў». На думку аўтараў, формула: «Гіне мова, гіне культура, гіне нацыя»—не правамерная «без належнага яе навуковага абгрунтавання». Больш таго, не дачакаўшыся і самі не зрабіўшы гэтага абгрунтавання, вучоныя ўсё ж выказваюць сумненні «ў безапеляцыйнасці гэтай формулы». Зрэшты, няма чаму здзіўляцца, бо і «гранічна-яснае паняцце—родная мова» мае, аказваецца, у нас «неадэкватнае разуменне і тлумачэнне». Прычым неадэкватна разумеюць яго чамусьці пераважна, калі зыходзіць з публікацыі А. Дзмітрука і А. Тозіка, дзеячы культуры, да прыкладу Н. Гілевіч, Г. Далідовіч, Я. Лецка, якія ў сваіх публікацыях заклікалі ўзяць беларускую мову пад апеку дзяржавы. І ў заключэнне, каб падмацаваць свае пазіцыі, аўтары бяруць сабе ў саюзнікі У. І. Леніна, спасылаючыся на наступную цытату з яго працы «Ці патрэбна абавязковая дзяржаўная мова?»: «Мы не хочам толькі аднаго: элемента ПРЫМУСОВАСЦІ. Мы не хочам заганяць у рай дубінай. Бо, колькі прыгожых выразаў «аб культуры» вы ні сказалі б, АБАВЯЗКОВАЯ дзяржаўная мова звязана з прымусам, убіваннем». На жаль, А. Дзмітрук і А. Тозік вельмі і вельмі недаацэньваюць агульнаадукацыйны ўзровень сучаснага чытача. Большасць тых, хто чытае «Звязду», ведае працяг гэтай цытаты: «Мы думаем, што вялікая і магутная руская мова не мае патрэбы ў тым, каб хто б там ні было павінен быў вывучаць яе З-ПАД ПАЛКІ». Як бачым, і работа гэтая, напісаная ў 1914 годзе, і працытаваны абзац скіраваны акурат супраць таго, за што так актыўна змагаюцца сёння А. Дзмітрук і А. Тозік,—увядзення рускай мовы ў якасці дзяржаўнай на тэрыторыі нацыянальных рэгіёнаў.**

# Суполкі, класы, школы...

**Шляхі станаўлення Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

**У Доме літаратара адбылося пашыранае пасяджэнне сакратарыята ТБМ, прысвечанае ходу арганізацыйна-прапагандысцкай працы па стварэнні суполак і рэгіянальных арганізацый. Выступалі ўдзельнікі нарады, зачытваліся паведамленні і пісьмы, якія прыходзілі на адрас ТБМ.**

ГУТАРКА пачалася з агляду пошты, атрыманай сакратарыятам, арганізацыйна-прапагандысцкай камісіяй ад сяброў таварыства. Цікавасць выклікалі матэрыялы, дасланыя старшынёй ініцыятыўнай групы ТБМ з Баранавіч М. Бусько. Ён паведаміў, што ў горадзе распрацавана праграма па захаванні і прапагандзе нашай культурнай спадчыны, адкрыта і дзейнічае школа для дарослых па вывучэнні беларускай мовы і літаратуры, пастунова пераводзіцца на беларускую мову аўдыёвізуальнае афармленне на гарадскім транспарце, на прамысловых прадпрыемствах, вуліцах, ва ўстановах.

Сябра ТБМ, інструктар ГК КПБ Кобрына І. Бакацюк, паведаміўшы пра стварэнне ініцыятыўнай групы ТБМ у горадзе і раёне, прывёў прыклады, калі беларускія школы не атрымлівалі падручнікаў, і дзеці вымушаны былі карыстацца рускамоўнымі кніжкамі. У Глускім раёне, напісаў В. Лаўрыновіч, яшчэ не створана арганізацыя таварыства, але аргкамітэт арганізаваў больш за 20 курсаў беларускай мовы практычна ва ўсіх школах раёна, а таксама пры клубах, раённай бібліятэцы і інш. Сябра рады ТБМ з Гомеля М. Хадоркін, галоўны бухгалтар буйнога прадпрыемства, наведаў усе раённыя педагагічныя нарады ў горадзе, арганізаваў сумесна з сябрам рады І. Штэйнерам гарадскі аргкамітэт, у які ўвайшлі дзесяткі прыхільнікаў беларускага слова розных прафесій. Аднак, лічыць М. Хадоркін, адначасова «патрэбны рашучыя дзяржаўныя меры па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы і беларусізацыі ўсяго жыцця».

Прайшлі ўстаноўчыя сходы і выбраны рады ТБМ у Маладзечне, Магілёве, Наваполацку. На аб'яднаным гарадскім і раённым сходзе ТБМ у Маладзечне прысутнічала больш за трыста чалавек. Сход доўжыўся звыш сямі гадзін, на ім пытанні ставіліся прынцыпова, ідэі выказваліся канструктыўныя, а гаворка вялася шчыра і кампетэнтна. У працы сходу ўдзельнічаў Н. Гілевіч.

На гарадскім сходзе суполак у Наваполацку было створана пяць камісій, складзены план практычнай дзейнасці. Старшынёй рады абраны пісьменнік Л. Баршчэўскі. А ў Полацку, хоць і не адбылося яшчэ ўстаноўчага сходу таварыства, ствараюцца сіламі ініцыятыўнай групы курсы беларускай мовы пры педвучылішчы і бібліятэцы імя Я. Купалы.

Старшынёй Магілёўскай рады ТБМ абраны выкладчык пядінстытута Я. Клімуць. У педінстытуце распрацавана праграма па адраджэнні беларускай мовы, частка прадметаў ужо выкладаецца па-беларуску. Сябры ТБМ у Магілёве маюць магчымасць адкрыць гасцёўню таварыства, іх запрашаюць выступаць у працоўных калектывах, навучальных установах. Аднак, як паведаміла Т. Раманькова, ёсць і факты негатыўнага стаўлення да беларускай мовы. Так, сябра таварыства, выкладчык матэматыкі ў педінстытуце Л. Латоцін не змог скончыць сваю прамову на беларускай мове на нарадзе сакратароў першасных партарганізацый у Цэнтральным райкоме, бо пачуліся з залы воклічы абурэння і знявагі, патрабаванні гаварыць па-руску.

Настаўнік з Клецкага раёна П. Ілюкевіч, расказаўшы пра стварэнне ініцыятыўнай групы ТБМ у рэгіёне, абураецца, што дагэтуль у старажытных цэнтрах беларускага кнігадрукавання Нясвіжы і Клецку няма ніводнай беларускай школы. Ён прапаноўвае выпускаць на базе раённай газеты спачатку штомесячнік, а потым і штотыднёвік «Роднае слова», у якім сіламі раённай арганізацыі ТБМ даваць завочныя ўрокі роднай мовы, змяшчаць цікавыя і актуальныя матэрыялы па гісторыі і культуры роднага краю.

Добра ідзе арганізацыйная справа па стварэнні суполак ТБМ у Стаўбцоўскім, Бялыніцкім і Чачэрскім раёнах, аб чым паведамілі настаўнік Я. Пачабыт, журналіст М. Карпечанка і настаўнік В. Патапенка.

Цалкам на беларускай мове прайшлі жнівеньскія нарады настаўнікаў у г. Лідзе, Лідскім, Мядзельскім раёнах. Выкладчык Лідскага педвучылішча М. Мельнік паведаміў, што з 1 верасня справаводства ў гарана пераходзіць на беларускую мову, а ў трох гарадскіх школах адкрываюцца беларускія класы. Частка прадметаў у педвучылішчы выкладаецца на беларускай мове, у тым ліку матэматыка, і ўсё большая колькасць выкладчыкаў жадае перайсці на выкладанне свайго прадмета на роднай мове. Калектыў педагогаў пастанавіў выйсці з хадайніцтвам у кампетэнтныя органы аб наданні вучылішчу імя славутай паэтэсы Цёткі (Алаізы Пашкевіч).

На нарадзе настаўнікаў Мядзельскага раёна ўсе выступленні, нават рэплікі з залы ў свабодны мікрафон былі на беларускай мове, гаворка была шчырай, змястоўнай, зацікаўленай. На рускай мове выступіў толькі адзін госць — зямляк мядзельцаў, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета СССР па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Г. Таразевіч.

В. Касперскі з Оршы паведамляе, што ён, ветэран працы, удзельнічаў у мерапрыемствах беларусізацыі яшчэ ў 20-х гадах і крытычна ставіцца да цяперашніх, на яго думку, запаволеных, нерашучых тэмпаў пашырэння роднай мовы ў грамадскіх і дзяржаўных сферах жыцця. У 20-я гады, адзначае В. Касперскі, было больш і рашучасці, і жадання ў кіраўніцтва, і плёну.

Ліст, падпісаны дзесяткамі сяброў самадзейнага аб'яднання «Паходня» з Гродна, прысвечаны не толькі арганізацыйным справам ТБМ, але і змяшчае шэраг прапаноў да праекта Закона БССР аб мовах. У ім адзначаецца, што ў якасці дзяржаўнай беларуская мова павінна служыць і сродкам міжнацыянальных зносін на тэрыторыі Беларусі. Сябра рады ТБМ, выкладчык Гродзенскага універсітэта А. Пяткевіч адзначыў, што хоць партыйна-ідэалагічныя ўстановы горада і падтрымліваюць дзейнасць ініцыятыўнай групы ТБМ, але не зрабілі прапаганду беларускага слова часткай сваёй штодзённай працы. Недарэчна было сарвана адкрыццё беларускай школы ў Гродне. У выніку адкрыўся толькі адзін беларускі клас у горадзе. І што выклікае здзіўленне, сказаў А. Пяткевіч, абласная і шэраг раённых газет, заўзята прапагандуючы польскую культуру, заахвочваючы ісці ў польскія класы, негатыўна або іранічна-паблажліва ставяцца да беларускамоўнага навучання ў гарадскіх цэнтрах.

Сябра таварыства, урач У. Паўлаў паведаміў, што ў Вымнянскай амбулаторыі Віцебскага раёна, калектыў якой уступіў у ТБМ, прыём хворых і справаводства вядзецца на беларускай мове. У. Паўлаў звярнуў таксама ўвагу на неэтычныя паводзіны прэзідыума на Віцебскай раённай нарадзе настаўнікаў. Было абвешчана (урач прысутнічаў на нарадзе), што «кантынгент ТБМ будзе падабраны на сходзе дырэктараў і ідэалагічных работнікаў раёна». Дзіўныя аносіны да стварэння грамадскай арганізацыі!

Супрацоўнік Касцюковіцкага краязнаўчага музея У. Ламінскі напісаў, што ў раёне створана ініцыятыўная група ТБМ, а таксама ва ўсіх трох гарадскіх школах гуманітарныя прадметы (гісторыя, грамадазнаўства, геаграфія, выяўленчае мастацтва, музыка і спевы), а таксама фізкультура, праца, прафесійнае навучанне пераведзены на выкладанне на беларускай мове. Адначасова Студзянецкая і Камунарская школы становяцца зноў беларускімі.

Настаўнік іспанскай мовы М. Бусел са Светлагорскага раёна паведаміў, што прэзідыум педагагічнай нарады раёна так спланаваў час, што пытанне пра стварэнне арганізацыі ТБМ аказалася па-за рэгламентам. Нават дакладчык, які расказваў пра таварыства, не змог дагаварыць да канца, а на пытанні і арганізацыйную працу ўвогуле не засталося часу. У спешна абраны аргкамітэт трапілі, на думку настаўніка, і асобы, якія не засведчылі павагі да беларускага слова.

Паведаміўшы пра абставіны стварэння суполак ТБМ на Піншчыне, былы рабочы, цяпер пенсіянер К. Удавідчык спыніўся на праблеме двухмоўя. Ён лічыць, што дзяржаўныя ўстановы павінны функцыяніраваць на нацыянальнай мове рэспублікі. А прадстаўнікі іншых народаў, якія жывуць у рэспубліцы, павінны атрымаць магчымасць свабодна аб'ядноўвацца ў нацыянальныя клубы, суполкі, адкрываць школы на родных мовах і інш. Па словах аўтара ліста, хоць госця ў хаце і садзяць на куце, але гаспадаровы парадкі ён паважаць павінен.

З г. Прыазерска Казахскай ССР даслаў ліст маёр С. Суднік, які паведаміў пра стварэнне суполкі ТБМ сярод афіцэраў-беларусаў.

Заслужаны настаўнік, сябра рэспубліканскай рады ТБМ А. Белакоз паведаміў аб тым, што на настаўніцкай педагагічнай нарадзе Мастоўскага раёна сакратар райкома тав. Равяка не дазволіў задаваць пытанні супрацоўніцы АН БССР А. Хромчанцы, якая расказала пра ТБМ, а самому настаўніку ўдалося выйсці да трыбуны толькі пасля настойлівых просьбаў. Ён напісаў: «Я расказаў пра тое, што выхаваўчая праца ў беларускіх школах вядзецца амаль усюды на рускай мове, дашкольныя дзіцячыя ўстановы таксама толькі лічацца беларускімі. Калі я ў 1948 г. вучыў пачатковыя класы ў Гудзевічах, то ў класе з 28 чалавек было 2—3 вучні-палякі. Сёння ў вёсцы пішуцца палякамі 40—50 працэнтаў вучняў. Мы не прывезлі гэтых дзяцей з Польшчы. Мы іх самі выхавалі, забраўшы ў іх гісторыю і мову Беларусі, матчыну мову. За 50 гадоў унукі тых, хто сядзеў у турмах буржуазнай Польшчы, бо дабіваліся для сваіх дзетак беларускай школы, сталіся «палякамі».

ПАСЛЯ агляду пошты рады ТБМ, якая змяшчае, акрамя пералічаных, шэраг цікавых матэрыялаў з Пружанскага, Пастаўскага і іншых раёнаў, выступілі ўдзельнікі жнівеньскіх педагагічных нарад, а таксама іншыя сябры таварыства, што займаюцца арганізацыйнай працаю.

Намеснік старшыні ТБМ П. Садоўскі асудзіў безадказныя публікацыі ў некаторых газетах, у якіх надумана супрацьпастаўляецца рух за перабудову «Адраджэнне» і ТБМ. Ён адзначыў, што моўная праграма дзвюх гэтых грамадскіх арганізацый, як і моўнай камісіі Беларускага фонду культуры, амаль супадае, што ствараe спрыяльныя ўмовы для супольнай іх працы. Разам з тым, звярнуў увагу прамоўца, часта здараецца, што людзей, якія ўдзельнічаюць у руху «Адраджэнне», апарат імкнецца не дапусціць на мерапрыемствы Таварыства беларускай мовы і перашкаджае ў цяперашні момант абранню іх у кіраўнічыя органы яго рэгіянальных арганізацый. Ёсць таксама факты, адзначыў П. Садоўскі, калі настаўнікам беларускай мовы ці іншых прадметаў перашкаджаюць весці школьную дакументацыю на беларускай мове, і ў прыклад прывёў 153-ю СШ г. Мінска. Прамоўца выказаў спадзяванне, што МНА

(Працяг на стар. 12).

# ПЕРААДОЛЕЦЬ АДЧУЖАНАСЦЬ

**Думкі, навеяныя гарадской установчай канферэнцыяй ТБМ**

КАЛІ надышоў час пачынаць маю адукацыю, у нашай невялічкай вёсцы Няверы, што на Мядзельшчыне, не знайшлося больш дзяцей-сямігодак. І ў мясцовай пачатковай школе давялося адчыняць першы клас з адной вучаніцай.

З самага пачатку навучання добра памятаю верш пра тое, як б'ецца, уецца шпаркі, лёгкакрылы матылёк. А таксама — заўзятае мыццё падлогі, дзіцячыя хітрыкі — спробу задобрыць маці перад «трагічным» паведамленнем пра заробленую двойку па матэматыцы.

Памятаю велізарны (у параўнанні са мной-першакласніцай) класны журнал, у якім зверху разлінаваных радкоў на кожнай старонцы настаўніца Ірына Якаўлеўна ўпісвала адзінае маё прозвішча.

Увесну даволі паспяхова скончылася першая спроба спасцігнуць мудрасць нямногіх пакуль што падручнікаў. Пачатковая школка наша была зачынена. І на тым скончылася некалькі ненатуральнае ўвасабленне ў маёй асобе цэлага класа. Засталася, праўда, зайздросная для гультаяватых вучняў звычка штодня рыхтаваць урокі.

Бацькі і сваякі найбольш непакоіліся, што дзіцяці занадта цяжка будзе хадзіць амаль за 5 кіламетраў у Крывіцкую дзесяцігодку. Ні яны, ні я не ведалі, што гэтыя кіламетры, за 9 гадоў ператоптаныя незлічоную колькасць разоў, стануць адлегласцю адчужанасці ад усяго таго, што маё дзіцячае ўсведамленне назапасіла з няхітрага сялянскага побыту, з гамонкі вясковых кабецін на лаўцы, з незласлівай лаянкі дзядзькоў, з бабуліных прыказак. З кожным годам кіламетры паміж домам і школай, якія ўсё спрытней пераадольваліся спачатку пешшу, а недзе з класа сёмага на рэйсавым аўтобусе, усё болей адлучалі мяне ад роднага слова, ад мовы, на якой я пачала ўсведамляць навакольны свет, ледзь зрабіўшы першыя самастойныя крокі.

Да пары да часу недаступным дзіцячаму розуму адмежаваннем ад буквара і «Роднага слова» была, як я дацяміла ўжо дарослаю, канкрэтная праява русіфікацыі. Здаецца, ні ў адным дакуменце не зафіксаваўшы статус рускай, мая родная Крывіцкая сярэдняя школа да нядаўняга часу мела гонар вучыць па-руску дзяцей трактарыстаў і прадаўцоў, шафёраў і даярак, беларусаў ва ўсіх пакаленнях.

І мы, «рускія» крывічане, з пачатковых класаў бесперашкодна ўсмоктвалі крышку ганарлівае стаўленне да сваіх равеснікаў з суседніх беларускамоўных васьмігодак. Каб пасля сустрэць іх у дзевятым класе з усведамленнем і дэманстрацыяй сваёй відавочнай перавагі ў мяккім вымаўленні «ч» і «р».

Наступны этап маёй адчужанасці — звыкла ўспрынятае апавяданне маёй равесніцы-зямлячкі недзе з-пад Мядзеля. Выпадковая таварышка ў піянерскім лагеры расказала пра тое, як жыхары іх вёскі, у тым ліку і бацькі маёй знаёмай, цэлай дэлегацыяй хадзілі прасіць настаўнікаў мясцовай школы, каб тыя не вучылі дзяцей на «хамскай» мове, а лепей па-руску.

Трэцяя мяжа, што аддаліла мяне ад роднага слова, гэта няпісаная завядзёнка сярод аднавяскоўцаў, выехаўшых у бліжэйшыя гарадкі: Вілейка, Маладзечна і тым больш у сталіцу. Чамусьці відавочнай прыкметай прыналежнасці да гарадскога саслоўя (у вясковым разуменні, значыць, і да адукаванасці, і культуры паводзін), лічыцца «чёканье». Замена ў гутарцы матчыных «лыжка», відэлец», «ложак» на «ложку», «вилку» і «кровать» давала і дагэтуль дае падставу наваяўленым гараджанам ганарыцца сваім незразумела на чым заснаваным, але падкрэслена ўзвышаным становішчам над «деревней».

На вялікі жаль, жыццё прыпаднесла столькі ўрокаў псеў-

(Працяг на стар. 12).

# ПРА КРЫТЫКУ БЕЗ ЗЛУЧНІКА «І»

**Міхась МУШЫНСКІ**

Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.

Аб справядлівасці нашых меркаванняў пра вымушаную падмену крытыкі павярхоўным літаратуразнаўствам сведчаць многія факты. Разгледзім, напрыклад, пытанне аб існуючых жанравых формах сучаснай бягучай крытыкі. Найбольш распаўсюджаныя з іх — **артыкул і рэцэнзія.** Затое не вельмі прыжыліся на старонках нашай перыёдыкі **аператыўны міні-водгук на новы твор, экспрэс-інтэрв'ю, літаратурны фельетон** менавіта **як жанр бягучай крытыкі, памфлет, форма дыялога.** Дужа рэдка выкарыстоўваецца і форма **адкрытага ліста крытыка да паэта ці празаіка, форма перапіскі рэдакцыі з чытачом, анкетаванне.** Праўда, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што апошнім часам некаторыя з прыгаданых тут жанравых форм — перапіска з чытачом, анкетаванне — практыкуюць штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», «Нёман»...

**Амаль адсутнічае ў нас ПРАГНАСТЫЧНАЯ КРЫТЫКА, ЛІТАРАТУРНА-КРЫТЫЧНАЯ ФУТУРАЛОГІЯ. Ну, хіба трэба нейкія спецыяльныя пастановы, канкрэтныя захады, каб трывала замацаваць на старонках друку, напрыклад, ЖАНР КРЫТЫЧНАЙ РЭПЛІКІ? Тым не менней такой формы ў жанравым арсенале бягучага рэцэнзавання покуль што няма. Да ЭСЭІСЦКАЙ КРЫТЫКІ ў нас калі і звяртаюцца, дык пераважна майстры-практыкі — паэты, празаікі. Нават штогадовыя ЛІТАРАТУРНЫЯ АГЛЯДЫ, якія бяруць свой пачатак ад М. Багдановіча, і тыя НЕ СТАЛІ ПАЎСЯДЗЁННАЙ З'ЯВАЙ НАШАГА ЛІТАРАТУРНА-ТВОРЧАГА ЖЫЦЦЯ! Хіба толькі часопіс «Маладосць» імкнецца захаваць на сваіх старонках гэтую вельмі неабходную форму бягучай крытыкі. «Як жывеш, маладое пакаленне?» —так сфармулявана тэма, прапанаваная рэдакцыяй «Маладосці» (1989. № 2, 3). Адказы У. Арлова, Т. Грамадчанкі, Г. Каржанеўскай, Я. Мінлашэўскага, В. Яраца, У. Дамашэвіча, В. Супрунчука, М. Тычыны, Т. Чабан пашырылі нашы ўяўленні аб тым, што думаюць прадстаўнікі беларускай паэзіі, прозы адносна набыткаў нашай літаратуры ў 1988 годзе і перспектывах яе развіцця. Праўда, гаворка там ішла толькі пра маладое пакаленне. На добры ж лад гадавыя агляды з абавязковым дадаткам — «Хроніка важнейшых грамадска-культурных падзей» — павінна выходзіць сістэматычна і вялікім тыражом, бо такое выданне —адзін з найболей надзейных, эфектыўных сродкаў прапаганды літаратуры.**

**Пра нясталасць многіх уласна *крытычных жанраў, якія* павінны мець свае спецыфічныя структурныя адрозненні, перш за ўсё ПАФАС ПАЛЕМІЧНАСЦІ, СКІРАВАНАСЦЬ ДА ДЫЯЛОГА, сведчыць і наступны факт. На старонках асобных выданняў час ад часу можна сустрэць рубрыку: «дзве думкі пра адзін твор». Аднак змест крытычных матэрыялаў рэдка калі адпавядае назве рубрыкі. Найчасцей гэта рэцэнзіі двух розных аўтараў, кожны з якіх не хоча ці не ўмее слухаць свайго апанента. Ён чуе толькі ўласны голас, прызнае вартымі толькі свае асабістыя аргументы. Чытач чакаў спрэчкі, палемікі, сутыкнення розных пунктаў гледжання, а ўдзельнікі дыялога закранулі другарадныя моманты, а сутнасць спрэчкі абмінулі. Замест дыялога атрымаліся два маналогі.**

Дзе ж трэба шукаць прычыну таго, што беларуская крытыка вельмі ўжо аднастайная ў жанрава-стылёвых адносінах? Прычын багата. **Адну з іх якраз і трэба бачыць у нешматлікасці прафесійных кадраў,** у тым, што прафесійная крытыка і на сённяшні дзень не склалася ў рэальную грамадска-культурную сілу. У нас былі і ёсць асобныя крытыкі, якія спецыялізуюцца ў вывучэнні сучаснай літаратуры, болей-меней сістэматычна рэцэнзуюць новыя творы.

Дарэчы, не раз даводзілася чуць нараканні загадчыкаў крытычных аддзелаў нашых часопісаў наконт таго, што ім усё цяжэй і цяжэй знаходзіць аўтара, які б узяўся напісаць рэцэнзію на новы твор. За артыкул, маўляў, бяруцца ахвотней, ды і то галоўным чынам акадэмічныя работнікі. Сітуацыя, думаецца, не патрабуе каментарыя: цяжкасці выкліканы, народжаны нешматлікасцю тых крытыкаў, хто стала цікавіцца бягучай літаратурай. Дык ці трэба здзіўляцца таму, што крытык-літаратуразнаўца, ставячы за мэту адрэцэнзаваць новы твор, міжвольна збіваецца на артыкул? Не, тут усё лагічна і заканамерна: літаратуразнаўца, за рэдкім выключэннем, не жыве ў стыхіі сучаснай літаратуры, у яго няма той гатоўнасці памяці, якая павінна быць у крытыка, ён не ведае з неабходнай паўнатой рэальнага становішча ў літаратуры, зместу новых твораў, а таму і абмежаваны ў сваіх магчымасцях.

Праўда, здараецца і так, што прыгаданыя недахопы *пэўным* чынам кампенсуюцца эрудыцыяй аўтара, яго ўменнем супастаўляць канкрэтны твор з класічнымі ўзорамі, рабіць цікавыя экскурсы ў літаратурнае мінулае. Але такія прыёмы не заўжды выратоўваюць становішча, *бо чытач* усё ж чакае ад крытыка не гістарычных аналогій і экскурсаў, а дакладнай ацэнкі новага твора, яго вартасцей і недахопаў, прычым, ацэнкі, выказанай у даступнай, зразумелай мове. Мова, стыль выкладання, форма падачы матэрыялу ў *крытыка-літаратуразнаўцы* міжвольна ўскладнёныя, нярэдка перанасычаныя навуковымі дэфініцыямі, хоць гэтая ўскладнёнасць для яго як навукоўцы арганічная.

**У падмене ўласна крытычнага аналізу твора не заўсёды глыбокім літаратуразнаўчым разглядам якраз і трэба шукаць адну з прычын такой прыкрай з'явы, як нешматлікасць чытацкай аўдыторыі крытычных прац. А між тым, лагічна было б чакаць адваротнага — таго, што крытычнае выступленне прыцягне да сябе шырокую ўвагу, дзякуючы вастрыні, надзённасці закранутых праблем, аператыўнасці водгуку і г. д. А хіба ў лепшыя часы, скажам, у другой палове 50-х —пачатку 60-х гадоў, літаратурная грамадскасць не захаплялася смелымі, востракрытычнымі артыкуламі маладых тады А. Адамовіча, І. Навуменкі, У. Калесніка, А. Лойкі, А. Клышкі, В. Каваленкі, А. Яскевіча, Ю. Канэ, В. Бурана, С. Гусака, Д. Бугаёва, С. Гаўрусёва, М. Стральцова і г. д., прадстаўнікоў старэйшага пакалення—Р. Бярозкіна, Р. Шкрабы, У. Юрэвіча. І ў наступныя гады гонар беларускай крытыкі не раз баранілі І. Мележ, Я. Брыль, В. Быкаў, У. Караткевіч...**

**Вядома, несправядліва было б падаваць справу так, нібыта на сённяшні дзень у нас зусім няма адпаведных патрабаванням часу літаратурна-крытычных матэрыялаў, і ўсе крытыкі пайшлі на заслужаны адпачынак. Не ставячы за мэту даць вычарпальны пералік такіх матэрыялаў, назаву некаторыя з іх, якія мне асабіста запомніліся сваёй змястоўнасцю, узважанасцю меркаванняў, пераканальнай аргументацыяй. За ацэнкамі і вывадамі тут бачны твар аўтара, яго пазіцыя, адказнасць за слова, жывы клопат пра літаратуру. Я маю на ўвазе перш за ўсё рэцэнзіі «Будзем садзіць сад» І. Афанасьева на раман В. Казько «Хроніка дзетдомаўскага саду», «Слова халоднае і сагрэтае сэрцам» Т. Шупенькі на творы А. Кажадуба, «Маштабнасць крытычнай думкі» Д. Бугаёва на кнігу У. Калесніка «Тварэнне легенды» — у «Полымі»; «Спасцігаючы таемны сэнс жыцця» Т. Грамадчанкі на першую кнігу прозы «Рабкова ноч» А. Наварыча, «Маланка на ростанях» — роздум М. Арочкі над новай кнігай П. Панчанкі «Горкі жолуд», «Працяг спрэчкі» М. Тычыны на кнігі нарысаў А. Казловіча, «Красамоўства ёсць мастацтва» С. Карузы на зборнік крытычных прац Г. Шупенькі «Галоўнае талент» — у «ЛіМе»; Т. Чабан «Калі маўчыць душа» на першую кнігу А. Глобуса «Парк» — у «Маладосці».**

У прыгаданых рэцэнзіях асабліва каштоўным уяўляецца мне адкрыты, шчыры характар размовы, імкненне гаварыць па сутнасці, не зацямняючы прадмета спрэчкі. А яшчэ тое, што тут крытыкі паспяхова пераадольваюць кампліментарнасць, беспадстаўнае захвальванне сярэдніх, прахадных твораў. Даецца гэта нялёгка, бо за доўгія дзесяцігоддзі культаўскага хваласпеву і брэжнеўскай застойнасці крытыка наша выпрацавала такі хітры стыль, што яна можа шмат гаварыць, але нічога не сказаць па сутнасці. Яна паспяхова пазбягала канкрэтнасці, выразнасці ацэнак. Што ж, настаў час вучыцца думаць і пісаць па-новаму, хоць гэта «новае»— — даўно забытае старое, бо гаворка ідзе пра шчырасць, сумленнасць, пра пачуццё адказнасці за вуснае і друкаванае слова. А гэтымі якасцямі валодала і наша дакастрычніцкая крытыка ў асобе М. Багдановіча, С. Палуяна, М. Гарэцкага, і крытыка 20-х, другой паловы 50-х—пачатку 60-х гадоў. Ды і ў іншыя неспрыяльныя часы прага ісціны не пакідала душы некаторых крытыкаў.

**Што датычыць другой традыцыйнай формы крытыкі — артыкула, дык і тут сёння ёсць пэўныя творчыя ўдачы. Сярод іх, на мой погляд, варта назваць артыкулы М. Арочкі «Абуджэнне гаспадара» («Полымя», 1988. № 7), І. Афанасьева «Палюбіць чалавецтва: праблемы новага мыслення і новай маралі ў творчасці В. Быкава» (там жа, № 9), Г. Егарэнкавай «Куды схаваўся агонь?» («Нёман», 1988. № 1), Р. Шкрабы «Шмат праўды не бывае» (там жа, № 4), А. Сямёнавай «Хто бярэ слова?» (там жа, № 5), П. Васючэнкі «Куды знікае смех?» (там жа, № 11), І. Багдановіч «Па дарозе ў залаты век» — агляд маладой беларускай паэзіі 1987 года («Маладосць», 1988. № 3), штрыхі да партрэта Сцяпана Гаўрусёва пад назвай «Сон пра рамонкавага хлопчыка» С. Кавалёва (там жа, № 5), В. Каваленкі «Час тых, хто прагне» («Нёман», 1989, № 1), Т. Чабан «Няхай нас ратуе боль» («ЛіМ», 1989. № 3).**

Аднак мы вымушаны з усёй адказнасцю зазначыць, што **высокага ўзроўню матэрыялаў, напісаных упэўненай, прафесійнай рукой, на фоне сучаснай літаратурна-крытычнай прадукцыі вельмі мала, а галоўнае, і гэта асабліва бянтэжыць, іх становіцца ўсё менш і менш.** Дастаткова параўнаць літаратурную *«прадукцыю»*, якая выходзіць сёння з друкарскага станка, — каб яшчэ раз убачыць: крытыка не спраўляецца з аналітычным асэнсаваннем таго, што адрасавана чытачу. Жанр рэцэнзіі сёння — рэдкі госць нават у тых органах друку, якія раней *актыўна* культывавалі гэтую аператыўную форму бягучай крытыкі. І яна амаль адсутнічае на старонках газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета», у «Вячэрнім Мінску» і г. д. Тут не трэба ніякіх статыстычных падлікаў.

А між тым, **толькі актыўны ўдзел усяго рэспубліканскага друку, а не асобных газет і часопісаў, накшталт «ЛіМа», «Полымя», «Нёмана», у сістэматычным асвятленні надзённых праблем літаратурнага жыцця, у *тым ліку і ў рэцэнзаванні* новых твораў, дапаможа вывесці сучасную беларускую крытыку з таго крызіснага становішча, у якім яна цяпер знаходзіцца, умацуе найболей слабое звяно літаратурна-крытычнай службы.** Мы маем на ўвазе **недастаткова трывалую сувязь крытыкі з шырокай чытацкай аўдыторыяй, паслабленне яе ролі ў фарміраванні светапогляду, грамадскіх, патрыятычных, нацыянальных пачуццяў чалавека, яго эстэтычнага густу.** Шырокая прапаганда лепшых мастацкіх дасягненняў на старонках масавага друку, як і прынцыповая, бескампрамісная крытычная ацэнка слабых, недасканалых, рамесніцкіх твораў, павінна цалкам апраўдаць сябе: мастацкая літаратура даказала, што пры ўсіх сваіх недахопах, зрывах, адступленнях ад ранейшых ідэйна-эстэтычных заваёў яна была і застаецца жывым фактарам уздзеяння на свядомасць чалавека. У артыкуле другога сакратара ЦК Кампартыі Беларусі М. Ігрунова «Цяжар палітычнага лідэрства, або Яшчэ адзін погляд на перабудову ў Беларусі» (перадрукаваны газетай «Звязда» 4 жніўня) зазначана, што «і ў тыя горкія для краіны гады», нягледзячы на вокрыкі і забароны, пісьменнік-франтавік В. Быкаў «не паддаваўся спакусе пісаць яе (вайну.— **М. М.**) ружовай фарбай, ва ўвесь голас гаварыў аб неабходнасці захоўваць чалавечую годнасць пры любых акалічнасцях. На такіх жа выразных грамадзянскіх, патрыятычных пазіцыях знаходзіліся і іншыя пісьменнікі. П. Панчанка гнеўна выкрываў «маральную недабрасумленнасць і ханжаства», У. Караткевіч папярэджваў аб тым, «што страта гістарычных каранёў, нацыянальных культурных традыцый можа абярнуцца бездухоўнасцю». Супраць неабдуманага пакарэння прыроды перасцерагаў В. Казько. Пра сацыяльную небяспеку п'янства «адным з першых у рэспубліцы ва ўвесь голас сказаў драматург Аляксей Дудараў».

Што ж, доўгі час афіцыйныя колы не ўмелі прыслухоўвацца да трывожных папярэджванняў, якія гучалі са старонак твораў многіх таленавітых мастакоў слова. Прыслужлівыя чыноўнікі гатовы былі абвінаваціць аўтараў гэтых твораў у ідэалагічнай нясталасці, прыпісаць ім імкненне ачарніць светлую сацыялістычную яву. Сёння становішча, дзякуй богу, пакрысе мяняецца ў лепшы бок. Але менавіта ў новых умовах якраз і трэба **адкрыць шырокую дарогу літаратурна-крытычным матэрыялам у друк, на радыё, на тэлебачанне.**

**Некалькі слоў пра месца літаратурнай крытыкі на радыё і тэлебачанні. Гэта месца своеасаблівае: крытыка там праяўляла сябе толькі ў адной традыцыйнай якасці — прапагандыста лепшых дасягненняў нацыянальнага прыгожага пісьменства. Мне асабіста ні разу *не давялося пачуць* у радыёперадачы ці з тэлеэкрана востракрытычны аналіз літаратурнага твора, разгляд твораў слабых, недасканалых, рамесніцкіх. Калі б такое выступленне адбылося, яно б было ўспрынята не інакш як асабісты выпад крытыка супраць пэўнага аўтара, як публічная абраза. Але ж гэта — застарэлы погляд *на ролю і значэнне крытыкі*, гэта — даніна абывацельскім уяўленням аб узаемаадносінах крытыка і пісьменніка. Менавіта радыё і тэлебачанне, разам з органамі друку, павінны стаць самым надзейным саюзнікам бягучай літаратурнай крытыкі, павінны несці радыёслухачам і тэлегледачам не толькі паэтычнае, але і крытычнае слова. Хацелася, каб тэлебачанне і радыё больш дбалі пра ўласныя жанравыя формы, у якіх бы актыўны ўдзел прымала і крытыка. Недастаткова толькі трансліраваць спектаклі, літаратурныя вечары, пісьменніцкія пленумы, пасяджэнні за «круглым сталом» і інш. Работнікі *тэлебачання маглі б* часцей арганізоўваць, скажам, інтэрв'ю з нагоды выхаду новага твора, тэледэбаты, дыспуты аб набалелых пытаннях творчага жыцця.**

**Пры гэтым важна, каб у такіх сустрэчах прымалі ўдзел і «спажыўцы» творчай прадукцыі, але не ў якасці вышэйшага суддзі, а як адны з тых, каму літаратурны твор адрасаваны. Прысутнасць «радавога чытача» якраз і дасць крытыку-прафесіяналу магчымасць твар у твар сутыкнуцца з тым, ад чыйго імя ён нярэдка выступае («чытач гэты твор не прыме», «чытач... прыме»). Няхай чытач адкрыта падзеліцца сваімі думкамі і меркаваннямі, з якімі прафесіянал, можа, і не заўсёды будзе згодны. Але ад усяго гэтага радыёслухачы і тэлегледачы атрымаюць бясспрэчную карысць, бо падобныя формы выведуць публічную размову на канкрэтную глебу.**

Чаму ж, аднак, наш масавы рэспубліканскі друк, за выключэннем, вядома, літаратурных выданняў, і ўчора, і сёння так стрымана ставіўся і ставіцца да ўласна літаратурнай крытыкі? На яго старонках калі і з'яўляюцца літаратурна-крытычныя матэрыялы, дык гэта пераважна артыкулы з нагоды юбілею вядомага пісьменніка ці гадавіны буйной грамадска-палітычнай падзеі. Рэцэнзуюцца таксама, хоць і зрэдку, найболей значныя новыя творы або вылучаныя на дзяржаўную прэмію. На ацэнку ж усяго масіву літаратуры, твораў меней вядомых пісьменнікаў, не кажучы ўжо пра крытычны разгляд асобных вершаў, апавяданняў, пра вопыты пачаткоўцаў, у перыядычнага друку не хапае месца.

На жаль, скажам мы, не хапае. Бо што ў рэшце рэшт атрымліваецца? А тое, што пры такіх умовах, у якія крытыка пастаўлена, і пры такім разуменні ёй сваіх задач, **яна ператвараецца ў пасткрытыку, бо ўжо не адпавядае свайму прызначэнню.** Сапраўды, перавага аддаецца славутаму, а маладым, якому вельмі патрэбна своечасовая публічная падтрымка, маўляў, няхай пачакае. На яго будзе звернута ўвага, калі ён стане вядомым... Дык хіба пасля гэтага можна гаварыць, што крытыка актыўна ўдзельнічае ў літаратурным працэсе? Хутчэй мы маем тут справу з абачлівымі, асцярожлівымі людзьмі, якія свядома ўхіляюцца ад таго, каб узяць на сябе смеласць першымі аб'ектыўна ацаніць новы твор. На практыцы мы бачым, што крытыкі часта не спяшаюцца з ацэнкай пэўнага твора, чакаючы, пакуль яна складзецца ў літаратурным асяроддзі, а потым яны паўтараць яе ў друку. Не сказаць сёння пра існаванне падобнай з'явы — тое самае, што паўтараць памылкі мінулых гадоў, заганяць хваробу ўглыбіню.

**Узняць *прэстыж* першай публічнай ацэнкі новага твора —вось што нам сёння асабліва патрэбна.** Знайсці форму заахвочвання таго крытыка, хто, не баючыся памыліцца, бярэ на сябе смеласць і адказнасць першым выступіць у друку з ацэнкай апавядання, паэтычнай падборкі ці кнігі пачаткоўца, малавядомага або абмінутага ўвагай аўтара! І асабліва важна тут актыўная падтрымка таго новага, што нясуць у літатаратуру прадстаўнікі маладой паэтычнай генерацыі, свабодныя ад псіхалогіі згодніцтва, ад гатоўнасці да маральных кампрамісаў, ад рабскай пакорлівасці і страху перад гневам начальства.

**Адсутнасць на старонках масавага друку крытычных разглядаў творчасці неславутых, «звычайных» аўтараў тлумачыцца і яшчэ адной прычынай. У рэдактараў газет няма цвёрдай упэўненасці што такога вось зместу выступленні ўвогуле патрэбныя, што яны будуць з карысцю ўспрыняты чытачом. Падобны скептыцызм, трэба прызнаць, мае пад сабой пэўную падставу. Можа, і не кожны крытычны водгук адразу ж арганічна ўпішацца ў традыцыйны змест нумара. Стэрэатып уяўленняў пераадольваецца, як бачым, не проста! Але бясспрэчна адно: грамадзянскія пачуцці, густы чытача трэба выхоўваць. А выхоўваць іх можна і прафесійна сталым разглядам лепшых твораў, і прынцыповай крытыкай рознага роду падробак, якія часта выдаваліся і выдаюцца за сапраўднае мастацтва. На жаль, іх не зменшылася ў часы публічнасці і аднаўлення прынцыпаў**

**дэмакратызму. Наадварот, цяпер аўтар недасканалага твора — са спасылкай на ідэю галоснасці, плюралізму — можа прымусіць работнікаў часопіса, газеты, выдавецтва надрукаваць гэты твор. Што ж, такое права ў яго ёсць, і з гэтым трэба лічыцца. Але вось тут якраз і ўзрастае роля крытыкі, аб'ектыўнай публічнай ацэнкі.**

**Наша ж крытыка за апошнія гады і дзесяцігоддзі развучылася гаварыць мужную, суровую праўду пра час і пра літаратуру. Яна незаслужана завышала ацэнкі твораў многіх і многіх пісьменнікаў, ішла на кампраміс, прымірэнча ставілася да той літаратуры, якую справядліва назвалі шэрай, рамесніцкай. І перыяд культу, і гады застою дэфармавалі, сказілі ўяўленне аб тым, што такое сапраўдная крытыка і якія яе задачы. Але калі быць шчырым, дык і пісьменнікі паспрыялі гэтай дэфармацыі, яны таксама прыклалі, як кажуць, руку да таго, каб крытыка стала своеасаблівай формай абслугі, сродкам задавальнення амбіцый тых аўтараў, хто адарваўся ад народа, ад жыцця, забыўся пра высокае прызначэнне мастацтва, каго цікавілі толькі асабістыя інтарэсы. У дадзеным выпадку можна, вядома, сказаць, што тут болей вінавата эпоха, што абставіны часу, маральны клімат грамадства штурхалі пісьменнікаў на такія паводзіны. Але гэта не апраўдвае іх. Паміж сумленнай пазіцыяй і прыстасавальніцтвам заўсёды ляжыць мяжа. Не прыкмячае яе толькі той, хто не хоча гэтага.**

Няма, думаецца, асаблівай патрэбы доўга тлумачыць блізкія і аддаленыя вынікі такога становішча, калі б наша крытыка ўзнялася на высокі ўзровень прафесіяналізму і з прынцыповых пазіцый ацэньвала б літаратурна-мастацкія з'явы, канкрэтныя творы, рэальны ўклад кожнага пісьменніка ў літаратуру. У сапраўднасці ж мы бачым іншы малюнак.

Мы дасюль вялі гаворку ў асноўным пра бягучую крытыку, пра аператыўныя жанры. Але было б неразумна абмяжоўваць сферу яе дзейнасці толькі рэцэнзаваннем. Ніхто не адбірае ў крытыка права на паглыблены аналіз сучаснага матэрыялу. Вось тут, думаецца, асабліва спатрэбіўся б вопыт літаратуразнаўцаў. На жаль, і навукоўцы не вельмі ахвотна звяртаюцца да тэарэтычнага асэнсавання жывога літаратурнага працэсу. Такое асэнсаванне мае месца пераважна ў манаграфічных працах. Але пры існуючай практыцы, калі кніга ўбачыць свет праз 3—5 гадоў пасля яе напісання, сучасны літаратурны працэс становіцца ўжо гісторыяй. І смешнавата бывае сачыць за актыўным удзелам аўтара манаграфіі ў палеміцы, якая адбывалася добрых пяць гадоў назад. Але ж не сам сябе паставіў крытык у смешнае становішча чалавека, які махае рукамі пасля бойкі! Калі б крытыкі, літаратуразнаўцы мелі свае спецыяльныя выданні, цікавасць да тэарэтычных праблем відавочна вырасла б. Тады б заняла адпаведнае месца на старонках гэтых выданняў і такая форма тэарэтычнай крытыкі, як прагностыка, вельмі патрэбная для нармальнага функцыяніравання навукова-абагульняючай думкі.

Зрэшты, адсутнасць прагнастычнай крытыкі нельга тлумачыць толькі адсутнасцю на Беларусі спецыяльных тэарэтычных выданняў. Гэтая форма крытыкі можа паспяхова развівацца тады, калі літаратурна-творчае жыццё ідзе нармальна, калі знаходзіць сваё праяўленне закон самаразвіцця і самарэгулявання літаратуры. Абапіраючыся на стабільны працэс, можна, вядома, і прадбачаннем будучых шляхоў займацца. Калі ж натуральная плынь літаратуры ўвесь час парушалася, дэфармавалася, як гэта мела месца ў 30-х—пачатку 50-х і ў пазнейшыя гады, наўрад ці здольны быў крытык вывесці аб'ектыўныя заканамернасці і тэндэнцыі развіцця.

# Анкета «ЛіМа»: слова публіцыстам

**«Перабудова грамадства — дэмакратызацыя, галоснасць, пашырэнне і ўвядзенне новых форм уласнасці — дае шырокі прастор для публіцыстыкі»,— гаварыў, адказваючы на пытанні анкеты, адзін са старэйшых нашых публіцыстаў *Ігнат Дуброўскі*. І хоць у сапраўднасці на шляху праўдзівага і ўсхваляванага пісьменніцкага слова многа перашкод, якія не заўсёды можна пераадолець, беларуская публіцыстыка сёння значна актывізавалася. Гэта, апрача І. Дуброўскага, адзначалі, бадай, усе яго калегі, што прынялі ўдзел у анкеце «ЛіМа».**

**Сёння адказамі І. Новікава і В. Якавенкі мы завяршаем сустрэчу з публіцыстамі.**

**1. Ці ёсць, на Ваш погляд, такія зоны ў грамадскім жыцці, у жыцці наогул, у якія па-ранейшаму публіцысту заглыбляцца «непажадана», а то і *небяспечна*?**

**2. Ці даводзілася Вам бачыць рэальны плён Вашых выступленняў у друку?**

**3. Ваша думка пра сучасную публіцыстыку, у прыватнасці, рэспубліканскую. Наколькі задавальняе Вас яе ўзровень, яе баявітасць?**

**4. Ваша запаветная пісьменніцкая мара?**



**Іван НОВІКАЎ**

## ЗА ЎДАСКАНАЛЕННЕ САЦЫЯЛІЗМУ

1. Зон, у якія сёння публіцыст не мог бы *зазірнуць*, я не бачу. Хіба што чарнобыльская трагедыя не раскрыта да канца. Тут Міністэрства аховы здароўя БССР *і некаторыя яго памагатыя* шмат туманяць. Ну і аператыўная дзейнасць КДБ, натуральна, не можа быць адкрытай. Усё *астатняе за апошнія гады* грунтоўна пераарана маімі калегамі. Дзе добрасумленна, дзе не вельмі — гэта ўжо іншая гаворка.

2. Мой працоўны стаж журналіста пачаўся ў 1935 годзе. Шлях пралёг ад раённай газеты да «Правды», прычым, у «Правде» — каля 30 гадоў. Зразумела, напісана за гэты час нямала, без рэальнага плёну не абышлося. Здабываўся ён пры непазбежнай умове — цвёрдасці і рашучасці, прынцыповасці і сумленнасці. Інакш ён не даецца нікому. Прыкладаў можна было б прывесці многа. Спынюся на некалькіх.

26 лістапада 1965 года ў «Правде» была змешчана мая невялікая карэспандэнцыя «Цана беспрынцыповасці. Як нарыхтоўвалі хлеб у Гродзенскай вобласці». У ёй гаварылася, што год выдаўся засушлівы, неўраджайны, план нарыхтовак хлеба выконваць не было чым. І тым не менш кіраўнікі вобласці рашылі адрапартаваць. Усё, што было вырашчана, пад мяцёлку везлі на нарыхтоўчыя пункты, у азарце стараннасці не пакінулі нават насення. І тут жа, тымі ж грузавікамі, везлі назад той жа хлеб у якасці насеннай ссуды. Словам, ашуканства.

Прывёў канкрэтныя прыклады — чатыры калгасы з Лідскага і Воранаўскага раёнаў. Гаспадаркі гэтых раёнаў здалі 3 тысячы тон зерня, а закупілі 2186 тон. Зрабіў кароткі аналіз такой з'явы.

Маленькая карэспандэнцыя выклікала вялікую буру. Другія газеты краіны з другіх рэгіёнаў далі такія ж матэрыялы і такім чынам падтрымалі мяне. Затое кіраўнікі вобласці і рэспублікі абрынулі на мяне вялікі гнеў, абвінавацілі ў спробе сарваць хлебанарыхтоўкі. Яны звярнуліся са скаргай на мяне ў ЦК КПСС, сцвярджаючы, што я сфальсіфікаваў факты.

У ЦК КПСС ім параілі звярнуцца ў «Правду», каб уладзіць пытанне. Адзін з кіраўнікоў рэспублікі пазваніў тагачаснаму галоўнаму рэдактару і так «пагаварыў», што ў таго ў час той размовы здарыўся інфаркт, і яго «хуткая дапамога» прама з кабінета адвезла ў рэанімацыю. У рэдакцыю ён больш не вярнуўся, яму далі другую пасаду.

Тым часам у Мінску праходзілі сходы партыйных актываў, на якіх кіраўнікі рэспублікі абвясцілі, што мяне знялі з работы ў «Правде» за фальсіфікацыю фактаў.

З вялікай цяжкасцю я даказаў сваю праваду. А неўзабаве на чарговым пленуме ЦК КПСС у дакладзе была асуджана практыка «выграбання» хлеба, якая прымянялася пры Хрушчове дзеля паказухі.

Другі прыклад выніковасці маіх выступленняў у друку — прысваенне Мінску звання горада-героя. Як нялёгка было мне, разам з камісіяй ЦК КПБ, ламаць ілжывае ўяўленне пра мінскае падполле, можна было б напісаць цэлую кнігу. Нам давялося процістаяць вельмі ўплывовым людзям, якіх падтрымлівалі нават многія ўвесдзеныя ў зман падпольшчыкі. Тройчы ўжо другія камісіі ЦК КПБ, якія ствараліся па патрабаванню нашых апанентаў, прыходзілі да адзінага вываду — пацвярджалі нашу праву, адвяргалі дамаганні тых, хто пісаў хлусню.

А вось больш свежы прыклад. «Правда» змясціла маю карэспандэнцыю пра возера Нарач і яго праблемы. Яна абмеркавана ў Савеце Міністраў рэспублікі, прынята адпаведная пастанова. Здаецца, мэта дасягнута, але... Мне паступаюць сігналы ад нарачан, што выконваецца пастанова не поўнасцю. Мабыць, давядзецца выступаць яшчэ раз. Каторы?..

3. Публіцыстыка цяпер, калі замацавалася галоснасць, стала больш раскаванай. Гэта і натуральна. Нельга ж параўноўваць 1965 год з сённяшнім. Лёгка быць смелым, паказваць арыгінальнасць свайго мыслення і баявітасць, калі табе нічога не пагражае. У такіх умовах у публіцыста ўзнікае новая спакуса — збіцца на легкадумнасць, павярхоўнасць, пустазвонства, на жаданне абы гучней пракукарэкаць, каб усе пачулі, што ёсць такі галасісты пеўнік.

Цяпер свае цяжкасці — лезці ў глыбіню жыццёвых праблем, раскрываць прыроду з'яў, якія замінаюць перабудове, вядуць яе не ў той бок — не на ўдасканаленне сацыялізму, а на разбурэнне яго.

4. Мая пісьменніцкая мара тая ж, што і ва ўсіх сумленных, *працавітых* савецкіх людзей—каб сацыялізм ачысціўся ад усяго заганнага, што наліпла на яго за дзесяцігоддзі, узмацнеў, пасталеў, каб людзям стала жыць лепей, чым мы жывём цяпер.



**Васіль ЯКАВЕНКА**

## РАНА ЗАХАПЛЯЦЦА ГАЛОСНАСЦЮ...

Мы ўсё яшчэ жывём у перавернутым свеце, і, каб заўважыць, што многае навокал пастаўлена з ног на галаву, не трэба быць Жванецкім. Дастаткова цвярозага погляду.

Здарылася чарнобыльская аварыя, ад той даты — 26 красавіка 1986 года — і пайшло адлічэнне драмы і трагедыі беларускага народа. Натуральна з'явілася «зона асаблівай увагі». Для каго? Для пацярпеўшых ад выкідаў радыяцыйнага вулкана, вядома. Але намаганнямі бюракратыі гэтая зона тут жа засакрэчваецца і выводзіцца з-пад кантролю грамадскасці, у тым ліку літаратараў, публіцыстаў, — і ператвараецца ў штосьці падобнае на гіганцкі эксперыментальны палігон.

Чарнобыльская аварыя здарылася на другі год перабудовы, дэкляраванай «лепшымі сіламі партыі», па сутнасці — яе авангардам, і тады акурат пачалі прабіваць сабе дарогу новыя прынцыпы грамадскіх адносін, сацыяльнай палітыкі... То быў *момант, калі* сама атмасфера грамадства, наэлектрызаваная абвостранымі пачуццямі і спадзяваннямі яшчэ зусім *нядаўна* палітычна здранцвелага люду, ужо вымагала ад вышэйшай адміністрацыі рэспублікі гаварыць праўду, несці праўду ў народ. Вышэйшае кіраўніцтва мела магчымасць на справе, з годнасцю паказаць сваю прылегласць да перабудовы, а галоўнае — праявіць шчыры клопат пра людзей, якія пацярпелі... На жаль, гэтага не здарылася. Не хапіла ў гэтай складанай і драматычнай сітуацыі ні «новага мыслення», ні шчырасці і сардэчнасці ў адносінах да народа.

Няма талану ў галоснасці па сённяшні дзень, ды скажу — і не будзе, пакуль яна не працярэбіць дарогу сабе на вышэйшыя паверхі адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Нам пакуль рана захапляцца ні дэклараванай галоснасцю, ні рознагалоссем або так званым плюралізмам у афіцыйным і нават нефармальным друку. Няма культуры палітычнага дыялогу, і там і тут «дэмакраты» навешваюць адзін на аднаго ярлыкі і затыкаюць адзін аднаму рот. Я ўжо на ўласнай практыцы пераканаўся: нашы рэспубліканскія газеты і іншыя *сродкі інфармацыі па-ранейшаму* сцяты холадам аўтарытарнасці і валюнтарызму. А што ўжо казаць пра абласныя газеты... *раённыя... шматтыражкі?..* Колькі паперы там пераводзіцца дарма і як бяздарна выкарыстоўваюцца плошчы, дзе павінен расчыняцца і нарошчвацца духоўны патэнцыял грамадства. Мой артыкул «Оглянись на землю свою» («Советская Белоруссия» за 21 чэрвеня г. г.), напісаны па заказу рэдакцыі і неўзабаве набраны, праляжаў пяць месяцаў, перш чым трапіць у нумар. І дзіва, што ён убачыў свет!

У апошнія гады мне не шанцавала з выхадам да чытача. У сваіх нарысах і артыкулах, у распрацоўцы той або іншай тэмы я часам аказваўся ў ліку першых, але, дзякуючы коснасці мыслення некаторых рэдакцыйных работнікаў і адтэрміноўкай з публікаваннем, раней паспявалі выказацца маскоўскія калегі.

Наогул мастацкая публіцыстыка *вымагае* характару, тэмпераменту і вялікай цярплівасці. Апошняе, пры хуткім бегу часу, мне вельмі цяжка даецца. Пакутую. Крыўдна часам за чэрствую рэдактуру, калі кніга гадамі ляжыць, а яшчэ больш — за розных двурушнікаў, *якіх напладзілася* столькі, як прусакоў па некаторых гасцініцах. Скажыце, хіба не ў гэтым адна з асноўных прычын таго, *што ў нас амаль* няма маладых публіцыстаў?

А дзейнасць палымянага публіцыстычнага слова залежыць не толькі ад зместу і эмацыянальнай нагрузкі, нададзенай яму аўтарам, але і ад асяроддзя, у якое гэта слова трапляе, дакладней, ад ступені маральнасці ўсяго грамадства, ягонай здольнасці рэагаваць, раздражняцца... У застойныя часы, бадай, на ўсіх кіраўнічых паверхах навучыліся ігнараваць прэсу, ігнараваць нават самую вострую і надзённую пісьменніцкую публіцыстыку, што заўважаў і ад чаго нярэдка пакутаваў, напрыклад, такі выдатны савецкі публіцыст, як Іван Васільеў.

Аднак на гэтым не дужа зайздросным фоне былі ў публіцыстаў (і ў мяне асабіста) удачы. Нагадаю, што нарысам «Дарога цераз гаць» я выйшаў на праблему духоўнага выхалашчвання і разарэння вёскі ў 60—70-я гады, разам з тым абараніў годнасць выдатнага чалавека, селяніна Сяргея Міроненкі. У нарысе «Звсдай сваю зямлю», па сутнасці, аднавіў справядлівасць, бо паказаў герояў, геолагаў, адкрывальнікаў нафты на Палессі. Багата шуму і нават пярэпалаху ў міліцэйскіх органах і надведамаснай ахове нарабіў нарыс «Ліпкі сок» («Ад грэху далей»)... Але ж калі гаварыць пра сапраўдны ўплыў на жыццё, дык яго мы, публіцысты, дабіліся, аб'яднаўшы аднойчы свае намаганні. Нагадаю маштабную публіцыстычную акцыю — міжрэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю па праблеме абвалавання Прыпяці, дзе сутыкнуліся розныя гаспадарчыя і прыродаахоўчыя канцэпцыі. Наша баявая пісьменніцкая застава была невялікая: І. Новікаў, Я. Пархута, А. Казловіч, Л. Караічаў, І. Дуброўскі, В. Ка-

**(Працяг на стар. 10).**

*Віншуем!*

# РУПЛІВЕЦ

*Максіму ЛУЖАНІНУ—80*



«Колькі ні давядзецца хадзіць пад сонцам, не пакіну хваліць, не стамлюся дзівіцца з незраўнанага цуду — кнігі!» Гэтыя словы Максіма Лужаніна, гэтае ягонае захапленне вызначаюцца не толькі цэхавай прыналежнасцю. Тут не толькі пісьменнік, не толькі літаратар гаворыць. І не толькі аматар кніжнага чытання. У гэтым прызнанні адкрываецца разуменне значэння кніжнай культуры для грамадства, для народа, гісторыі.

Што такое ўвогуле лёс кнігі, лёс мастацтва? На чым заснаваныя ўзаемадачыненні гісторыі, творцы і яго тварэння? На аб'ектыўнай заканамернасці? Або вызначальным тут усё ж з'яўляецца выпадак? У нас жыве ўласніцкі інстынкт, які дае спакойнае адчуванне валодання нялічанымі духоўнымі багаццямі — як фактамі і дадзенасцямі. У любы момант працягні руку — і можна напіцца з той крыніцы. Але ўявім хоць на хвіліну, што няма, не існуе ў свеце, ну, скажам, «Новай зямлі» Якуба Коласа, або паэзіі Янкі Купалы, або... Ды, зрэшты, што там казаць, быў час, калі шматлікія творы існавалі, і адначасна не існавалі для нас. Што там уяўляць, калі нейкі год назад «Тутэйшыя» Купалы, «Дзве душы» Гарэцкага, «Запіскі Самсона Самасуя» Мрыя як бы і не існавалі. Ды пра гэтыя творы асобная гаворка. Няхай арыштаваныя, няхай у затачэнні «спецхранаў», яны ўсё-такі былі рэалізаваныя — перад тварам вечнасці. А вось аб тым, што магло-не магло не напісацца, можна, сапраўды, гаварыць як аб цудзе. Хто ўсё-такі ўручае творцу сціло?!

Калі чытаю кнігу Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе», гэтую «выключную», па выслаўленні Уладзіміра Караткевіча, кнігу, не пакідае пачуццё радасці ад таго, **што мы маем яе,** што вось так проста і лёгка можна ўзяць яе ў рукі, раскрыць на любой старонцы і заглыбіцца. А яшчэ з гаркотай прыгадваецца, што пра шмат нашых дзеячаў і творцаў, вартых кніг і паэм, мы не маем не толькі грунтоўнага жыццяпісу, але почасту не ведаем нават даты нараджэння або смерці.

Засведчыць пра час і яго стваральнікаў. Узважыць: калі не ты, то хто? Усвядоміць: на месцы не створанага, не расказанага табой застанецца касмічная дзірка, холад міжзорнае пустэчы. Мяркую, акурат гэтыя быційна-маральныя меркаванні кіравалі Лужаніным, калі ён падступаўся да напісання кнігі пра Коласа. Кніга-памяць — зберагальніца і ашчаджальніца гісторыі і культуры, выказніца нацыянальнае самасвядомасці.

Дзеля яе ўзбагачэння, дзеля яе паўнаты нямала папрацаваў на сваім вяку Максім Лужанін, талент сапраўдны, разнапланавы, шматбаковы. Зроблена нямала, даробак багаты. Не ведаю, ці лічыць сам пісьменнік кнігу пра Коласа галоўнай сваёй ці адной з галоўных кніг, але несумненна, што яна — з'ява вельмі характэрная і цэльная ў ягонай творчасці, у чымсьці вызначальная. Атрыманы ад мудрага класіка запавет стаў жыццёвай і творчай праграмай, увасобіўся ў творах. Напэўна, выразней і афарыстычней не скажаш пра тое галоўнае, стрыжнявое, што складае сутнасць гэтай праграмы, чым зрабіў гэта сёлета сам Лужанін у слове на адкрыццё новага часопіса «Спадчына»: «Дзе б ні быў чалавек, што б з сябе ні ўяўляў, на якую б высокую прыступку культуры ні ўзняўся — дбай і дбай! Зберагаючы каштоўнасці, што дасталіся ў спадчыну самому, шануй і перахоўвай створанае табой і паплечнікамі, парупся ўкласці ў яго хоць драбок уласнаручна здабытай карысці і красы, словам, патурбуйся пра спадчыну для наступнікаў».

Тою ж руплівасцю, прагай збірання па зярнятку ўсяго жыццядайнага і жыццястойкага ў роднай культуры пазначаны і грунтоўныя, роздумныя крытычныя артыкулы Максіма Лужаніна, і ягоныя ўспаміны аб перабытым, аб таварышах па пяру. Помніцца ўжо даўні ягоны аглядны артыкул — дослед пра паэзію. Уразіла ў ім ашчаднасць адносін да кожнай паэтычнай з'явы, чуйнасць, з якой угадвалася запаветнае і істотнае. Пысінская паэзія, да прыкладу, стала пасля таго нашмат мне бліжэй і больш зразумелай (а ў нечым і больш загадкавай). Дар, рэдкі і для «чыстых» крытыкаў, — праніклівасць. Дар увогуле рэдкі, таму што ён таксама і мастацкі, і чалавечы дар. Адна з асноўных падвалін творчасці. Зразумець чалавека і прыняць яго ў сваё сэрца.

Не ўсё і не заўсёды разумелася і прымалася належным чынам і ў творчасці самога Максіма Лужаніна. Часіны былі трудныя, напэўна не самыя лепшыя для пяра. Гэта цяпер мы можам успрымаць ягоны радок «Чарнабыллем і смуткам узрасталі палі» як нейкім цудам схопленае юнаком-паэтам празарэнне-прадчуванне або як выпадковае супадзенне сённяшняй нашай агульнай трагедыі з тагачасным лірычным настроем. Тады ж прыведзены радок, як і многія іншыя быў неаспрэчным пацвярджэннем «віны», не абы-якой, а «шкоднай», «варожай» дзейнасці. Творчасць нашага сённяшняга юбіляра ў адна тысяча дзевяцьсот трыццатым (калі толькі падступала жахлівая навала) характарызавалася наступным чынам: «кулацкая, дробнабуржуазная па ідэалагічнаму зместу і ўпадніцкая па настрою, бо сацыяльныя карэнні яе ляжаць у кулацкай эканоміцы» (артыкул Н. Шэўчыка ў «Маладняку»). Вось так, ні больш ні менш.

Страты, нанесеныя **тым** часам, наўрад калі давядзецца цалкам падлічыць. Што гэта было з намі, з краінай? Як дайшло да таго, што агульначалавечыя памкненні, гуманістычныя ідэалы, натуральныя, урэшце чалавечыя пачуцці ўспрымаліся, маглі ўспрымацца, «прачытвацца» кімсьці надзвычай «пільным» як крымінал, як злачын супроць «класавых» інтарэсаў?! Вяртаецца цяпер, у наш больш вольны для слова і думкі час выпакутаванае і перадуманае **тады.** З тым, каб засцерагчы наступнікаў.

Не дай адкульсці сесці скулцы,
Каб зноў не выскачыў, зважай,
Не мульцікульт,
не мульцікульцік,
А проста мульціпустабай.

Пачне вучыць даіць каровы,
Не навучыўшыся даіць,
Ці павязе дарыць кароны,
Правоў не маючы дарыць...

Гэта — з неапублікаванага ў свой час раздзела з паэмы «Як нараджаўся Новы свет». Над тым жа — залежнасцю агульнага лёсу ад выбару кожнага—думае пісьменнік і ў аповесці «Трое», пад якой дата: 1976-ы, і якая апублікавана нядаўнім часам. Аповесць гэта не стаіць у шэрагу тых твораў, дзе падаюцца разгорнутыя карціны дзеянняў «рэпрэсіўнай машыны». Яна звернута больш ва ўнутраны свет чалавека, да псіхалагічнай матывацыі ягоных учынкаў. Хіба што ў назве, якую можна патрактаваць як згадку пра сумнавядомыя «тройкі», прабіваецца «каларыт эпохі». У розныя «тройкі» трапляе герой. То ён воляй лёсу суддзя, то нібыта падсудны. Кожная сітуацыя неадназначная. Але прысуд свой урэшце выносіць жыццё: неподсудны, таму што змог захаваць чалавечыя якасці характару, і як бы ні склаўся лёс, не здрадзіў галоўнаму — разуменню мяжы між дабром і злом. Магчыма, пахаванне героя крыху меладраматызавана, але праўда тут у тым, што мы прысутнічаем на сумным свяце прызнання нарэшце, пасля столькіх страт, першынства за чалавечым, людскім.

Паэзія, проза, крытыка, эсэістыка Максіма Лужаніна прымаюцца і чытаюцца сёння з аднолькавым зацікаўленнем, з нязменным запытаннем: а што ж там новенькага? Бо з'яднаны неардынарнай асобаю аўтара, цікавага суразмоўніка, мудрага дарадцы, чалавека з вялікім жыццёвым вопытам. Творы мастака вабяць да сябе, прыцягваюць нейкай па-асабліваму дагледжанай, угрунтаванай, сказаў бы яшчэ па-інтэлігенцку выкшталцонай, моваю. Калі абрыдае, аж няможна трываць, дыстыляваная, казённая, пакалечаная бяздумным і несутрымным калькаваннем, мова нашых некаторых газет, некаторых твораў і г. д., хочацца ўдыхнуць водар сапраўднага жывога слова. Тады бярэш, побач з іншымі, у рукі кнігу Максіма Лужаніна. Ведаеш: аўтар — моўны гурман. Ён завядзе і пакажа моўныя нерушы. Слову ў яго творах прасторна, яно не забытанае шкалярскімі прописамі, паўнагучнае і дыхтоўнае, Аднак жа і не раскілзанае, не самавольна-неабавязковае. Багатае, шматфарбнае і дакладнае. Мо таму Лужаніну і лёгка, як падаецца, было пісаць прадмову да зборніка «Замежны дэтэктыў». Ніякага дысанансу з сучаснай абноўленай лексікай новай перакладчыцкай генерацыі.

Зрэшты, давайце прыслухаемся, няхай скажа пра мову, пра яе анталагічнае, быційнае значэнне сам майстар: «Закладзі спадчыну ў мову — перш за ўсё! Бо выдзьмуць вятры гісторыі і напамінак пра тых, хто нядбала адмахваецца ад яе як ад нечага брыдотнага і аджытага, або— горш! — усчынае дратавацца роднае з родных — сваё Слова! Адно яно будзе жыць, бо ў мове закладзена вялікая жыццетрываласць, і нездарма дайшло ад старажытных: «Упачатку было Слова, і слова было ад бога, і бог быў Слова».

Максіма Лужаніна вызначала і вызначае, нягледзячы на шаноўны ўзрост, маладая няўрымслівасць, незапраграмаванасць, нечаканасць звароту да той ці іншай тэмы або дзялянкі. Вось хоць бы і тая ж нядаўняя прадмова да зборніка дэтэктываў. А над усім — высокая культура, дасведчанасць, абазнанасць і, зразумела ж, талент.

Талент, справядліва дадзены руплівцу.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ.**

---

**Віктар ШЫРОКАЎ**

## *Дом паэзіі*

*Аляксандру Амвросьевічу ЛУЖАНІНУ і Яўгеніі Эргардаўне ПФЛЯУМБАУМ.*

Чтобы встретиться — надо
расстаться
на юру на ветру поутру...
22-32-18
я когда-нибудь вновь наберу.

Загудит телефонное чудо
и в копилку просыплется медь...
«Здравствуй, Виктор! Куда и
откуда?
Мы хотим на тебя посмотреть».

И опять на такси я проеду
мимо Свислочи, славной реки...
И опять мы затеем беседу,
дорогие мои старики.

Я прочту вам стихи, если
можно
я обследую книжный развал;
мне представить сейчас
невозможно,
что когда-то у вас не бывал.

Как бы ложь под меня ни
копала,
как бы враг ни палил из фузей,
есть на улице Янки Купалы
*Дом Поэзии* верных друзей.

Как бы годы ни стали
меняться,
в лютый холод и в злую жару
22-32-18
я когда-нибудь вновь наберу.

г. Масква.

---

**Вольга ІПАТАВА**



# ЗДАНІ

АПАВЯДАННЕ

А. Ф. ШАНТЫРУ

Мы СТАЯЛІ на ўзгорку, разглядаючы мармуровага анёла на помніку маладой дзяўчыне, калі ўнізе, каля магілы Ядвігіна Ш., якую мы давялі да ладу, прапалоўшы пустазелле і абрэзаўшы галінкі бярозы, спыніўся пажылы чалавек з ваеннай выпраўкай, мабыць, пенсіянер, і моцна загаварыў да жанчыны, таксама пажылой, але са слядамі касметыкі на стомленым твары.

— Паглядзі, Жаначка, і тут недабітыя нацыяналісты! Бач ты іх, за сваімі глядзяць.

І дадаў, адыходзячы:

— Мала мы іх... паскубалі! Іш, аджылі!

Па твары майго спадарожніка прамільгнуў боль, вусны яго задрыжалі. Мы паволі пайшлі прэч з могілак, спыніліся каля помніка Сэрца Маці і Сына, дзе маліліся, укленчыўшы, людзі, селі на лаўку.

Надвячорак, цёплы і ласкавы, клаўся залатымі паласамі на траву, на засяроджаныя твары тых, хто ішоў сюды, на могілкі, дзе ў вечным спакоі застылі крыжы, помнікі і капліцы.

— Хочаце, я раскажу вам пра лагер? Пра тое, што і дасюль мроіцца ў снах? Цяпер жа можна расказваць...

Яму было ледзь за пяцьдзесят, але глыбокія маршчыны ляжалі на спакутаваным твары—так кладуцца на палетках паднятыя магутнай тэхнікай барозны.

— А раскажу я вам пра аўчарку. Яе клікалі Ронай, і была яна ўлюбёнкай начальніка. Ён сам — сам! — даглядаў яе, карміў. І нацкоўваў на нас, вязняў.

У яе быў выдатны нюх, і не аднаго з тых, хто спрабаваў бегчы, яна вярнула назад. Але раптам у яе пачалі выпадаць зубы — мабыць, многа кармілі салодкім. Мне загадалі лячыць яе — на той час спатрэбіліся мае стаматалагічныя веды, і жыццё трохі палепшылася. Нават калі расстрэльвалі нас пасля паўстання і рассоўвалі па іншых лагерах, дзякуючы ёй, я застаўся жывым.

*Кіно*

# Чубар, Зазыба і іншыя

**Пачынаючы з вясны, працуе ў вёсцы Бершты на Гродзеншчыне здымачная група кінастудыі «Беларусьфільм» (творчае аб'яднанне «Дыялог»). Пад кіраўніцтвам рэжысёра Ігара Дабралюбава ажыццяўляецца шасцісерыйная тэлеэкранізацыя старонак рамана Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі».**

**Наш няштатны карэспандэнт А. Дзмітрыеў пабываў у кіна-Верамейках, зрабіў здымкі, якія вы тут бачыце, а таксама пагутарыў з рэжысёрам-пастаноўшчыкам.**









**— Здзяйсняецца мая даўняя мара, — сказаў І. Дабралюбаў. — Лічу чыгрынаўскую трылогію адным з самых значных твораў беларускай літаратуры. Найперш вабіць тое, што надзвычайная дзейная насычанасць дасягаецца тут у прасторы, часава і геаграфічна вельмі сціслай. Разам з тым, Верамейкі шчыльна злучаны з лёсам краіны і ўсяго свету. Па-майстэрску выпісаны народныя характары. Героі на старонках рамана жывуць нібы самі па сабе, без дырэктыўнага прымусу з боку пісьменніка.**

**Нам таксама хацелася б дасягнуць гэтай вось нязмушанасці. Таму, працуючы над густанаселеным фільмам, мы ставім перад сабой задачу — пазбегнуць зададзенасці, штучнасці, «акцёрскасці» пры ўвасабленні народных персанажаў. Прынамсі, гэтым і тлумачыцца тое, што ў карціне здымаюцца выключна беларускія выканаўцы. На час працы над «Плачам перапёлкі» мы склікалі своеасаблівую «артыстычную зборную» тэатраў рэспублікі. Заняты ў нас Стэфанія Станюта, Галіна Макарава, Фёдар Шмакаў, Генадзь Аўсяннікаў, Валерый Філатаў і многія-многія іншыя.**

**Працуючы над сцэнарыем, у некаторых выпадках я меў на ўвазе тых ці іншых акцёраў. Так, напрыклад, бясспрэчнымі для мяне былі Чубар — Валянцін Белахвосцік, Зазыба — Эдуард Гарачы. Іншых выканаўцаў мы шукалі, таксама не выязджаючы за межы Беларусі, — у Брэсце, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Мінску... Я глыбока перакананы ў тым, што наша рэспубліка мае каштоўнае сузор'е акцёрскіх талентаў, якое, на жаль, недаравальна мала выкарыстоўваецца.**

**Спадзяюся, што тэлегледачы ўбачаць прэм'еру «Плачу перапёлкі» 9 мая будучага года, у дні святкавання 45-годдзя Перамогі, — сказаў на заканчэнне І. Дабралюбаў.**

На здымках: рэжысёр-пастаноўшчык І. ДАБРАЛЮБАЎ і аператар - пастаноўшчык А. РУДЗЬ; героі будучага фільма — Т. МАРХЕЛЬ (Марфа), В. БЕЛАХВОСЦІК (Чубар), С. АКРУЖНАЯ (Ганна Карпілава), Э. ГАРАЧЫ (Зазыба).



# РАНА ЗАХАПЛЯЦЦА ГАЛОСНАСЦЮ...

**(Пачатак на стар. 7).**

рамазаў, А. Петрашкевіч, але ж публіцыстам удалося завязаць і распаліць дыскусію, потым вынесці яе на старонкі газет і часопісаў, у тэлеэфір... І захісталіся прыхільнікі абвалавання, а некаторыя вучоныя ў сваіх поглядах на меліярацыю поймы павярнулі на 180 градусаў. Канферэнцыя прыняла вольныя ад шматгадовага шаблону рэкамендацыі і для меліяратараў, у выніку — тыя адмовіліся ад асушэння 30 новых аб'ектаў у пойме Прыпяці, як і ад ідэі абвалавання ракі наогул. І хоць не ўсё там ужо паддавалася выпраўленню, мы атрымалі перамогу.

Што хочацца сказаць далей... У нашай публіцыстыцы ўвогуле адбываецца заканамерны, хоць і не вельмі акрэслены працэс ажыўлення. У цэлым жа свежае ў думках, пачуццях, настроях прабіваецца пакуль не на асноўных напрамках развіцця грамадства (як дэмакратызацыя і народаўладдзе, суверэннасць і поўны гаспадарчы разлік), а найбольш на абочынах. Асноўныя напрамкі беларускімі публіцыстамі амаль не даследуюцца, і выключэнне тут хіба складае культурна - рэтраспектыўная або гістарычная плынь, дзе выступаюць В. Быкаў, Н. Гілевіч, Б. Сачанка, М. Ермаловіч, І. Ласкоў, Л. Лыч, П. Садоўскі, З. Пазняк.

Атрад беларускіх публіцыстаў за апошнія гады, няйначай, пашырыўся, але ж магчымасці, якія адкрыла для нашага брата перабудова, выкарыстоўваюцца слаба, няма творчай падтрымкі адным аднаго і няма наступальнасці. У выніку можа здарыцца тое, што новыя абсягі грамадскага жыцця астануцца неасвоенымі, больш за тое — неадваяванымі ў застою.

Гады перабудовы, на жаль, мала змянілі ў творчай практыцы беларускіх публіцыстаў, найбольш блізкіх да сацыяльнага асэнсавання з'яў і падзей; хаця яны, маючы вялікі жыццёвы вопыт, маглі б, пэўна, узняцца да сацыяльна-філасафічнага аналізу рэчаіснасці. Не ў поўную меру раскрываецца наш творчы патэнцыял. Чаму? У некаторых з нас як бы не зняты ўнутраныя зажымы, не пераадолены комплексы ранейшых часоў. Слабы прыток свежых сіл. Мала дзе і мала ў каго можна прайсці школу ўзмужнелай грамадзянскай публіцыстыкі.

Пра ролю публіцыстыкі сёння гаварыць—тое самае, што ламацца ў адчыненыя дзверы. Публіцыстыка спакваля рыхтавала грамадскую думку да перабудовы, яна ж і сёння наперадзе: аздараўляе грамадства, умацоўвае яго творчы дух і настрой, мабілізуе і яднае прагрэсіўныя сілы. Іменна таму, я зазначу, у планах нашых рэдактараў і выдаўцоў, калі яны ў дапаўненне да службовых пасад яшчэ і грамадзяне, на гэты конт шмат недагляду. Усё яшчэ тоўстая сцяна паміж публіцыстам і чытачом.

Здаецца, прасцей за ўсё адказаць на апошняе пытанне штотыднёвіка «ЛіМ», хоць яно для мяне і надта складанае. Колькі гадоў ужо мару пакінуць свой публіцыстычны занятак — рупяць іншыя творчыя і жыццёвыя планы, ды вось ніяк не вырвуся з яго абдымкаў...

**«Адыходзіць у нябыт!» — так называлася публікацыя загадчыка музычнай рэдакцыі выдавецтва «Беларусь» А. Астахава ў нашай газеце за 4.08.89 г. Яго невясёлы роздум пра «вызначальную ролю» народна-інструментальнай музыкі не застаўся па-за ўвагай чытачоў, зацікаўленых у вырашэнні ўзнятай праблемы. Прапануем два водгукі на публікацыю.**

*Музыка*

# Час брацца за справу

Праблема, узнятая ў артыкуле «Адыходзіць у нябыт?» («ЛіМ», 4.08.89 г.), даўно ўжо лунала ў паветры, балюча кранаючы сэрцы прыхільнікаў, нацыянальнай музычнай культуры Беларусі. Мае рацыю аўтар артыкула А. Астахаў, калі гаворыць пра трывожнае становішча, якое склалася ў развіцці народна-інструментальнага жанру ў рэспубліцы. Гэтая няпростая праблема ўзнікла даўно і зараз прыняла такі выгляд, калі гаворка можа ісці не столькі пра выкарыстанне існуючых яшчэ прыкладаў народна-інструментальнай спадчыны, колькі пра адраджэнне народных выканаўчых традыцый, пра ахову таго нямногага, што захавалася намаганнямі аматараў традыцыйнага народна-інструментальнага жанру — вучоных і выканаўцаў. Сваё слова ў гэтай справе павінны сказаць і музычныя навучальныя ўстановы рэспублікі, якія рыхтуюць кадры, у прыватнасці, для мастацкай самадзейнасці і клубных устаноў.

**Пэўныя ўмовы для гэтага ёсць у кафедры аркестравага дырыжыравання Мінскага інстытута культуры. Тут працуе вялікі калектыў выкладчыкаў, сярод якіх 5 кандыдатаў навук, існуе шэраг аркестравых калектываў, ансамблі народных інструментаў. Безумоўна, можна скардзіцца на слабую матэрыяльную базу кафедры, вялікі штат супрацоўнікаў (больш за 50 чалавек), што перашкаджае аператыўна вырашаць надзённыя пытанні і ўносіць неабходныя змены ў вучэбна-выхаваўчы працэс.**

**Але трэба прызнаць: правы, дадзеныя вышэйшым навучальным установам дакументамі паводле рэформы сістэмы вышэйшай адукацыі ў краіне, выкарыстоўваюцца пакуль што не на поўную моц. Так, ВНУ дадзена права ўносіць неабходныя змены ў вучэбны план з улікам асаблівасцей рэгіёна (рэспублікі) і тэндэнцый развіцця тых ці іншых бакоў грамадскага жыцця. Вось чаму неабходна больш поўна ў планах акрэсліць працэс адраджэння нацыянальнай культуры, у тым ліку і народна-інструментальнай, які пачаўся на Беларусі.**

Якія ж канкрэтныя справы можна было б здзейсніць у бліжэйшы час у гэтым кірунку?

Можна назваць наступныя. Вырашэнне пытанняў арганізацыйнага і матэрыяльна-тэхнічнага зместу: падзяленне кафедры на дзве — спецінструмента і аркестравага дырыжыравання; умацаванне матэрыяль-

*Тэатр*

# «АДНОЛЬКАВА ВАЖУЦЬ ДАБРО І ЗЛО»

## «КАРТАТЭКА» Т. Ружэвіча ў Тэатры-студыі на плошчы Перамогі

**Ёсць пэўная бясспрэчнасць у выбары рэжысёрам Р. Таліпавым гэтай п'есы менавіта сёння — не «пра прастытутак», не «пра Сталіна», не «пра мафію»; не дэтэктыў, не меладрама, не інсцэніроўка нашумелага твора. Спектакль у сваю чаргу, сведчыць, што тэатр — не абавязак, не кафедра, не палітыка. І гасразліковы Тэатр-студыя на плошчы Перамогі рызыкнуў не змагацца за гледача, а заставацца «проста тэатрам»...**

**Тэатрам думкі (інтэлекту), тэатрам парадоксу, тэатрам сімвала? Бадай, усе названыя кірункі спалучыліся пад уладаю Р. Таліпава. Спектакль тэатра-студыі «Стрып-тыз» С. Мрожака быў пазначаны, па-першае, дакладнасцю рэжысёрскае работы, якая давала прастору глядацкай фантазіі, падштурхвала да сатворчасці, але, па-другое, і няспраўджанасцю, няпэўнасцю акцёрскага існавання ў ролях. Схіляюся да высновы, што рэжысёр «прымерваў» на сваіх акцёраў сякія-такія адмысловасці з выдатна распрацаваных у замежжы «школ» накшталт жорсткасці ці жаху; прымерка, праўда, засталася прымеркаю. А што ж другая пастаноўка?**

...«Цёмныя месцы» драм літаратара Ружэвіча шмат у чым тлумачаць ягоныя вершы. Дый драмы напісаны ім накшталт вершаў. Мовячы фігуральна, «без рыфмаў, знакаў прыпынку, традыцыйных памераў» — паводле вызначэння Ю. Пшыбася. Праз верш Ружэвіч хацеў убачыць ягоную, верша, драматычную тканіну, «каб было заўважна, што варушыцца на дне», і форма такім чынам павінна была знікаць, рабіцца настолькі празрыстаю, каб атаясаміцца з прадметам твора:

Крынічным
празрыстым апісаннем
вады
дасягнеш
апісання смагі

Магчыма, менавіта ягоныя вершы «перацякалі», ператвараліся ў п'есы, бо «на дне» п'ес можна заўважыць маленькія каменьчыкі паэтычных вобразаў — «Картатэка» не выключэнне. (Цікава, што па-майстэрску рэжысуючы вершы, Ружэвіч і з драмамі сваімі досыць упэўнена робіць тое самае з дапамогаю шматлікіх рэмарак). Нацыянальны польскі паэт, годны грамадзянін сусвету, свайго Героя ў «Картатэцы» ён, відаць, празрыста атаясаміў і з самім сабою, і з цэлым чалавецтвам. Нездарма Героя і ў п'есе, і ў спектаклі называюць самымі рознымі імёнамі. Ружэвіч яго штучна не абагульняў, не тыпізаваў, не характарызаваў, не надзяляў барадаўкамі і шрамамі, а прадставіў, так бы мовіць, праз працэс мыслення, праз плынь ягонай, Героя, свядомасці — згадкі, здагадкі, выдумкі ў тым ліку,—праз дзівосную тканіну, матэрыю, атмасферу, якую павінны ўтварыць на сцэне акцёрскія словы, словы, словы... Герою наканавана быццам «матэрыялізавацца» з гэтых слоў, а потым «знікнуць» туды ж — у словы... Аднак Ружэвіч ніякі не абсурдыст («Я ствараю тэатр з рэалістычнай тканіны з дапамогай слова. Слова ў тэатры набывае плоць»), ён, бадай, парадаксаліст, прыхільнік кантрастаў, а таксама пакручастых доказаў, а затым — рухомых драматургічных пабудоў. Без традыцыйных памераў, без знакаў прыпынку...

**Ружэвіч, а ўслед за ім Таліпаў, далікатна вызначаюць, што на плыву жыцця чалавек трымаецца процьмаю самых нябачных, самых неверагодных сувязяў, што ён сам сябе не**

на-тэхнічнай базы спецыялізацыі (набыццё новых музычных інструментаў, будаўніцтва новага корпусу інстытута для адпаведнага факультэта і інш.). Што датычыцца зместу навучання студэнтаў, дык гэта, перш за ўсё, распрацоўка новага курса, які мог бы называцца «Беларуская народна-інструментальная музыка» або «Беларускі інструментальны фальклор». Для гэтага на кафедры плануецца стварэнне творчага калектыву навукоўцаў з удзелам вядучых вучоных рэспублікі для распрацоўкі такога курса.

Можна згадзіцца з А. Астахавым, што на кафедры асноўны акцэнт зроблены на падрыхтоўку спецыялістаў у галіне акадэмічнага народна-аркестравага жанру — кіраўнікоў рускіх і беларускіх народных аркестраў. На гэта накіравана і выкладанне іншых дысцыплін — дырыжыравання, інструментоўкі, спецінструментаў. І толькі ўвядзеннем новага курса праблему павышэння ролі традыцыйнага народна-інструментальнага напрамку ў вучэбным працэсе спецыялізацыі не вырашыць. Трэба шырэй арганізаваць навучанне студэнтаў на прыкладах традыцыйнага інструментальнага фальклору, засваенне імі народных выканаўчых традыцый. Да гэтага можна было б дадаць і такія плануемыя на кафедры мерапрыемствы, як вывучэнне вопыту падрыхтоўкі кадраў кіраўнікоў самадзейных народна-інструментальных калектываў у суседніх рэспубліках, павышэнне кваліфікацыі і педагагічнага майстэрства выкладчыкаў кафедры праз курсы павышэння кваліфікацыі, стажыроўку ў прафесійных калектывах фальклорнага кірунку; распрацоўка мадэлі спецыяліста з улікам сённяшніх працэсаў у культурным жыцці рэспублікі і ўнясенне адпаведных змен у вучэбныя планы і г. д.

Пра ўсё гэта даўно ўжо ідзе гаворка. Але прыйшоў час брацца за справу. Бо заўтра ўжо можа быць позна.

**Мікалай КУЗЬМІНІЧ,**
**кандыдат педагагічных навук, выкладчык кафедры аркестравага дырыжыравання Мінскага інстытута культуры.**

# Зробім наступны крок!

Невясёлы, нават драматычны артыкул-роздум А. Астахава не мог не з'явіцца. Бо ўжо дайшла да мяжы супярэчнасць «паміж дэклараваннем даўно ўжо агульнапрызнанага тэзісу аб вызначальнай ролі традыцый нацыянальнага інструментальнага фальклору ў развіцці прафесійнай народна-інструментальнай культуры і сапраўдным станам спраў у галіне вывучэння і творчага асэнсавання гэтых самых традыцый». Супярэчнасць, на якую звярнуў нашу ўвагу А. Астахаў, узнікла не знянацку, не сёння і нават не ў тыя гады застою, на якія мы зараз з палёгкай спісваем многія пралікі нашай культурнай палітыкі. Яна «назапашвалася» дзесяцігоддзямі, выспявала патроху ў час сталінскіх рэпрэсій і абвінавачванняў у нацдэмаўшчыне, мацнела ў гады ліслiва-ціхай «непрымусовай» русіфікацыі. Карані гэтай балючай пачварнай з'явы вельмі моцныя, таму беларускім народнікам асабліва цяжка будзе вяртацца да бацькоўскага кута, да спрадвечнай народнай традыцыі. Тым больш будзе цяжка, што заўсёды патрабуецца шмат намаганняў і смеласці, каб прызнаць свае памылкі і пазбавіцца іх. І ўсё ж прыйшоў час гэта зрабіць, бо калі не адумацца сёння, не давялося б заўтра вярнуцца да халоднага папялішча.

Прадбачу, што «вярнуць правы» традыцыйнаму інструментальнаму фальклору будзе не менш цяжка, чым адрадзіць беларускую мову. Для гэтай працы, акрамя энтузіязму, патрэбны будуць і людскія рэсурсы, і карпатлівая арганізацыйная работа, і матэрыяльныя затраты. Але мне не хацелася б зараз палохаць чытача цяжкасцямі. Спачатку трэба памеркаваць пра тое, якія магчымасці можна знайсці, якія формы выкарыстаць. Не будзем зараз жа вырашаць праблему на ўзроўні рэспублікі, абмяжуемся сталіцай.

**Дык вось, прапанова першая. Адна-двухдзённы семінар па праблемах месца і ролі традыцыйнага інструментальнага фальклору ў сённяшнім музычным жыцці Беларусі. У рабоце семінара маглі б удзельнічаць выкладчыкі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, Мінскага інстытута культуры, супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, музыканты-практыкі. На гэтым семінары вызначыліся б найбольш зацікаўленыя асобы-аднадумцы, былі б акрэслены набалелыя праблемы, скаардынавана далейшая сумесная праца, намечаны план канкрэтных захадаў. Наладжванне такога семінара вымагае мінімальных затрат, бо не прадугледжвае камандзіровачных выдаткаў. Арганізацыйныя ж намаганні будуць зменшаны, калі такі семінар правесці ў рамках традыцыйнай навукова-вынікoвай канферэнцыі прафесарска-выкладчыцкага складу на народных кафедрах БДК або МІКа.**

**Прапанова другая. Курсы павышэння кваліфікацыі, двух- або трохмесячныя (без адрыву ад вытворчасці) на базе БДК, МІКа або інстытута павышэння кваліфікацыі Мінкультуры БССР. Думаю, сярод выкладчыкаў знайшлося б дастаткова тых, хто з вялікай цікавасцю наведваў бы лекцыі па гісторыі, тэорыі і практыцы інструментальнай фалькларыстыкі (і добра, каб тыя лекцыі чытаў лепшы ў рэспубліцы знаўца нацыянальнага інструментальнага фальклору І. Д. Назіна). Зразумела, зацікавілі б слухачоў практычныя заняткі па методыцы збору і расшыфроўкі фальклорнага матэрыялу, творчыя сустрэчы з вядучымі майстрамі музычных інструментаў, з мастацкімі калектывамі фальклорнага напрамку, такімі, як ансамблі «Свята», «Жывіца», «Крупіцкія музыкі». Такія курсы можна арганізаваць на тыя сродкі, што адпушчаны кожнай ВНУ на павышэнне кваліфікацыі прафесарска-выкладчыцкага складу.**

**Прапанова трэцяя. Фарміраванне навуковага калектыву па праблемах беларускага інструментальнага фальклору з каардынацыйным цэнтрам у ІМЭФ АН БССР. Думаецца, што сярод амаль двухсот выкладчыкаў спецыяльных кафедр БДУ і МІКа знойдуцца 10-20 чалавек, якія зацікавяцца гэтымі праблемамі. Паміж намі, штогод большая частка выкладчыкаў творчых ВНУ, калі пішуць свае індывідуальныя планы, пакутліва думаюць, чым напоўніць гадзіны, прадугледжаныя на навуковую і творчую работу. Уявіце сабе, якая будзе аддача, калі нашы цымбалісты, баяністы, скрыпачы, кларнетысты пад добрым навуковым кіраўніцтвам вучоных-фалькларыстаў возьмуцца за расшыфроўку, аналіз, абагульненне ўжо сабранага матэрыялу, ды яшчэ зацікавяць гэтай работай студэнтаў! (Дарэчы, такі вопыт засвоены нашымі калегамі з Літоўскай кансерваторыі, і ён прыносіць плён). І зноў, як бачыце, рэалізацыя гэтай прапановы не вымагае ніякіх дадатковых матэрыяльных укладанняў.**

А яшчэ... Яшчэ добра было б, каб у нашых творчых ВНУ стварыць поруч з баяннымі, цымбальнымі, домравымі ансамблямі акадэмічнай традыцыі, якія ўжо існуюць, яшчэ і ансамблі народных беларускіх інструментаў «этнаграфічнага» напрамку. Такія творчыя калектывы — выкладчыцкія або студэнцкія — не толькі былі б добрай падставай для вывучэння і практычнага засваення народна-інструментальнай спадчыны, але, упэўнена, маглі б весці канцэртна-прапагандысцкую дзейнасць. Стварэнне такіх калектываў натуральна ўпісваецца ў планы навукова-даследчай і творчай працы выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ.

Мяркую, добра было б у МІКу адкрыць у будучым новую спецыялізацыю, дзе падрыхтоўваліся б кіраўнікі самадзейных народна-інструментальных аркестраў і ансамбляў фальклорнага напрамку.

Зразумела, я магла б фантазіраваць і далей, але, напэўна, было б цікава, калі да размовы далучыліся б і іншыя.

Такім чынам, першы крок зроблены — з'явіўся крытычны праблемны артыкул А. Астахава. Давайце ж зробім другі крок, трэці і спынім агульнымі намаганнямі адыход у нябыт нашай спадчыны — традыцый нацыянальнага народнага інструменталізму.

**Наталля ЯКАНЮК,**
**кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры аркестравага дырыжыравання МІКа.**

---

**заўсёды разумее, калі можа пажадаць адначасова памерці і ўваскрэснуць; чалавек, здаецца, усведамляе сваю біялагічную мяжу, але падсвядома перакананы ў бессмяротнасці душы... Драматург і рэжысёр адзначаюць хісткую раўнавагу свету чалавечага і сусвету касмічнага (у спектаклі ёсць сцэна з дзіцячымі цацкамі, «гульні» з якімі ў нейкім сэнсе сімвалізуюць чалавечую дзейнасць), крохкую гармонію паміж злым і добрым у чалавеку, строяць кепікі з палітыкі і перадаюць зале сваю шчымячую стомленасць ад бездапаможнасці ў справе выратавання ўсяго і ўсіх.**

**Нагадаю, Герой заняты складаннем вельмі своеасаблівай картатэкі (прыём эксцэнтрычны, дзіўны, тэатральны) — раптоўных згадак, сноў, размоў, спрэчак, часам балючых намаганняў асэнсаваць і растлумачыць уласнае жыццё, прыстойнае, выродлівае, узнёслае і гаротнае адначасова (чым не жыццё кожнага?). Атмасфера паэтыкі сну, эстэтыка паэтычнага вобразу ўтвараюцца з плыні слоў, зрухаў; па-свойму вытанчаных, па-свойму пікантных сітуацый, якія ўзнаўляюць чародку вобразаў з мінулага Героя. Са свайго боку дзею кантралююць і абмяжоўваюць тры «Старыя» кабеціны (у драматурга гэта мужчыны), гэткія нянькі, спакушальніцы, наглядачкі ці сапраўдныя багіні лёсу (просіцца асацыяцыя з Мойрамі), ролі якіх выконваюць маладзенькія актрысы Л. Хацкевіч, В. Сарока, В. Шаплякова. Колькі разоў пад рознымі абліччамі акупуюць сцэнічную пляцоўку Мужчыны (Б. Палякоў і У. Юрэвіч)—як абмершчыкі, ці далакопы, ці нахабныя служкі, ці злавесныя асобы з заданнем ад Люцыпара, няйначай. Чалавечае жыццё Героя заціснута ў вузкую прастору паміж жаночым і мужчынскім пачаткамі (матыў з Фрэйда), альбо павольна рухаецца па адвечным калідоры часу, як энергія нашай думкі і духу (матывы з «Вяданты» і Вярнадскага). Герой (а сваё цела і дух яму аддаў акцёр І. Сцяпанаў) пакутліва ўзнаўляе свае адчуванні — няўжо так прадчуваецца канец жыцця?!**

**«Людзі палуднуюць, толькі палуднуюць, а тым часам складаецца іхняе шчасце і разбіваюцца іхнія жыцці»,— я спісала гэтую цытату А. Чэхава з артыкула пра Тадэвуша Ружэвіча, дзе «Картатэка» названа драмай пэўнага чалавечага стану. Што да Героя, дык з ім як быццам нічога асаблівага і не адбываецца, не здараецца. Ён, па сутнасці, яшчэ не пачынаў жыць! А ў калідоры часу не затрымліваюцца.**

**Праз вобраз Героя рэжысёр праводзіць думку пра марнасць марнасцяў, бессэнсоўнасць жыцця і пра тое, што толькі сам чалавек можа надаць яму сэнсу. Акцёр у гэтай ролі прапануе некалькі нязвыклае існаванне — хоць бы ў тым, як не баіцца (лепш сказаць, жадаў бы) адкрыта дэманстраваць свае адчуванні, крыху адасобіўшыся ад таго, каго ставарае, але знарок не стараецца ставіцца да Героя па-філасофску адцягнена ці іранічна. Праўда, мне здалося, што акцёрскі настрой на працягу спектакля не мяняецца. Халаднаватае чаканне і чамусьці падсвядомая насцярожанасць, нават у тых сцэнах, дзе ледзь не літаральна даводзіцца выяўляць безвыходнасць і біцца аб сцяну. Чаканне на свой манер апаноўвае і гледачоў: якая раптоўнасць акцёрскага выканання скалане ці дасць паспытаць прыкрасці? Насцярожанасць акцёра проста-такі наструньвае залу на насцярожанасць у адказ. Прынамсі, мне так здалося, ды сфера пачуццяў-адчуванняў настолькі няўлоўная, што не ўлавіць... вельмі проста. Але відавочна, І. Сцяпанаў хацеў бы знайсці і засвоіць для свайго Героя цалкам нетрадыцыйнае існаванне на пляцоўцы. Акцёр яшчэ на шляху да поспеху.**

**Людзі, якіх узнаўляе Герой, некалі нешта значылі ў ягоным жыцці, нездарма яны ўзнікаюць менавіта перад канцом, і ці не з той самай прычыны такія цудоўна-адцягненыя, такія, я б сказала, эстэтычна дасканалыя? У згадках, да прыкладу, нават Тоўстая дама дзякуючы рэжысёру з'яўляецца стройнаю і гнуткаю, а банальныя рэплікі Мамы і Таты Героя рэзка кантрастуюць і іх чалавечаю значнасцю і вытанчанасцю. Адзіны выканаўца, на маю думку, пакуль выпадае, — хацела напісаць «з ансамбля», ды ён выпадае з атмасферы спектакля ці парушае яе—А. Абрамовіч у ролі Дзядзькі. Ягонае выйсце не выклікае пачуццёвага зруху; яго абыякавасць альбо скутасць у шкоду вобразу, які, па-мойму, патрабуе трошкі дасціпнай характарнасці.**



Сцэна са спектакля. Фота У. УСАЧОВА.

**А. Жызнеўскі (Мужчына з праборам) і Л. Хацкевіч («Старая», Вольга, Тоўстая дама) працуюць дасціпна, выяўляючы долю характарнасці персанажаў, зусім не характарна выпісаных драматургам. Л. Хацкевіч, дарэчы, нездарма прымае на сцэне палярна розныя абліччы: яна павінна быць непаўторнаю, як... праявы самога лёсу Героя. Мяркую, такім чынам рэжысёр падкрэсліў ягоную існасць і непрадказальнасць.**

Наследуючы Ружэвічу, ідучы шляхам парадоксу, са слоўнае плыні Героя варта вылучыць адно праклятае пытанне (да гэтага падводзіць І. Сцяпанаў), каб... у саміх сябе папытаць тое самае: як так?! Як так атрымалася, што адзінае сваё жыццё нельга пражыць самым найлепшым чынам, а ідэал таму і ідэал, што недасягальны; праходзяць маладосць, сталасць, старасць, а сутнасці быцця спазнаць няможна, не выпадае, затое, і з лішкам—трэба мітусіцца, маракаваць, гібець... Як так?! Гэта злосныя сацыяльныя сілы вінаватыя ці спраkавечныя законы існавання разумнага? Вось і Ружэвіч спачатку піша: «шукаю сабе могілкі дзе не паўстану з памерлых», але «пасля канцу свету пасля смерці я апынуўся пасярод жыцця сатвараў сябе ствараў жыццё». Паэт Ружэвіч такім шляхам аднаўляе гармонію, яму не пярэчыць Ружэвіч-драматург: «Лепш за ўсё я бачу, калі заплюшчваю вочы. З заплюшчанымі вачыма я бачу каханне, веру, праўду...» Акцёр робіць пасля гэтай рэплікі Героя маленькую паўзу, якая на сучаснай сцэнічнай мове можа абазначаць вялікае мастакоўскае сумненне наконт аднаўлення гармоніі. Сумненне і пакідаецца гледачам... Дый хто толькі не занатоўваў парадаксальныя сумненні за гісторыю існавання пісанага Слова; Ружэвіч працягвае па-свойму: «Аднолькава важуць дабро і зло». Такой рэплікі няма ў спектаклі, гэта—радок з верша, але яго «сваімі словамі» прамаўляе голас з-за сцэны, калі да Героя быццам бы па інтэрв'ю звяртаецца Журналіст (каб Герой патлумачыў яму сваё жыццё). У драматурга Журналіст абавязаны выйсці на сцэну, Таліпаў абмяжоўваецца адным голасам з-за сцэны, які належыць нейкай вярхоўнай істоце, паводле традыцыйных уяўленняў, анёлу, апосталу, богу. «Вельмі позна»,—на ўсё адказвае голасу Герой. І—знікае. І ніводнага тлумачэння больш не дае...

**Я ж зразумела ягонае дрэнчанне так: парушэнне гармоніі, раўнавагі не танна абыдзецца чалавечай душы, нават калі свет вакол яе і не разляціцца на друзачкі. Душа, чалавек, жыццё (і ў гэтай выснове, магчыма, заключана рэжысёрская канцэпцыя спектакля) — вельмі каштоўныя самі па сабе і ў любых сваіх праявах (гаворка пакуль не ідзе пра пачварства ці паталогію, хоць і тут варта добра падумаць), каб дзеля чаго б там ні было ахвяраваць імі. Па ўсім відаць, гэтая канцэпцыя не напрасткі запазычана тэатрам з сусветнага Слова, выпакутавана не адным днём жыцця.**

**...Дык ёсць хто вінаваты ў чалавечай мізэрнасці? Альбо адказны за чалавечую веліч? І чым гэта не тэма для наступнага спектакля?..**

**Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

# «АЛЕ ДУМКАЙ, СЭРЦАМ Я Ў СВАЁЙ АЙЧЫНЕ...»

**Як мы паведамлялі ўжо, сваю духоўную радзіму — Беларусь наведаў вядомы спявак са Злучаных Штатаў Амерыкі Данчык (Багдан Андрусішын). Ён пабываў у Ленінградзе, Кіеве, Львове, выступіў з канцэртамі ў Мінску, Віцебску, Полацку, Вільнюсе, Маскве. Выручаныя ад канцэртаў сродкі ён перадаў у фонд пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі, а таксама Таварыству беларускай мовы.**

**Член нашай рэдкалегіі, пісьменнік Барыс Сачанка сустрэўся з Данчыкам і яго маці Ю. Андрусішынай, альбо спадарыняй Юляй. Іх гутарку (з захаваннем асаблівасцей маўлення беларускай эміграцыі) рэдакцыя штотыднёвіка прапануе ўвазе чытачоў.**

**Барыс Сачанка. — Спадарыня Юля, калі ласка, раскажыце пра сябе. Дзе вы нарадзіліся, як апынуліся на чужыне?**

**Юля Андрусішына.** — Я нарадзілася ў Менску. У гады вайны выехала ў Нямеччыну, пазней — у Амерыку. Выйшла там замуж. Мой муж украінец, маю двух сыноў — Юрку і Данчыка. Цяпер вось, пасля стольких год ростані, прыехала на Бацькаўшчыну.

**Б. С. — Слоў колькі пра беларускі асяродак у Амерыцы.**

**Ю. А.** — У Нью-Йорку ёсць Беларуска-амерыканскае задзіночанне, якое аб'ядноўвае ўсіх свядомых беларусаў Амерыкі. Працуе Беларускі інстытут навукі і мастацтва, арганізацыя беларускай моладзі. Выдаецца газета «Беларус». У Нью-Джэрсі і ў Саўт-Рывеpы ёсць свае мясцовыя культурныя цэнтры. Ёсць яны і ў іншых гарадах Амерыкі. У Кліўлендзе, напрыклад,— Полацак, у Нью-Йорку — Менск...

**Б. С. — А як амерыканскія ўлады ставяцца да беларускай эміграцыі?**

**Ю. А.** — Вельмі добра. Падтрымліваюць нас, да нашых нацыянальных святаў прысылаюць тэлеграмы, віншуюць, дазваляюць арганізоўваць фестывалі, выстаўкі...

**Б. С. — Цяпер пытанне да Данчыка: як ты пазнаў і вывучыў беларускую мову, як пачаў спяваць, як працаваў над сваім голасам, дзе вучыўся, словам, як з Багдана Андрусішына стаў Данчыкам?..**

**Данчык.** — Не ведаю, з чаго пачаць... Па-беларуску мы гаварылі заўсёды, бо гэта наша родная мова. Тата — украінец, дык я з татам імкнуўся гаварыць па-ўкраінску, а з мамай і бабцяй — па-беларуску. Для нас з братам гэта было натуральна, звыкла. Так што не было ніякіх праблем. Мяне вельмі дзівіць, чаму тут, у Беларусі, пра гэта пытаюць. Гэта ніякі не талент, калі з малога кожны дзень гаворыш на гэтай мове, дык гэта не цяжка. Праўда, тата іншы раз казаў маме, што пара дзецям пераходзіць на ангельскую мову, а то будуць з іх смяяцца ў школе. Але мы навучыліся размаўляць па-ангельску і не згубілі беларускай і ўкраінскай моў. Я скончыў універсітэт у Нью-Йорку, факультэт журналістыкі. Але я ніколі не працаваў журналістам. Працую ў банку, набіраю новых супрацоўнікаў і звальняю тых, хто не справіўся з працай ці знайшоў лепшую. Данчык — гэта ласкавае ад Багданчык... А спяваць я спяваў заўсёды. Дзесяць год вучыўся іграць на піяніна. Потым належаў да ўкраінскіх скаўтаў. Вельмі прыгожыя там былі традыцыі — ля вогнішча спяваць пад гітару. Мне гэта падабалася. Я сам купіў сабе гітару і пачаў пад яе спяваць. Першыя песні былі амерыканскія, ну і беларускія, украінскія. Беларусам вельмі спадабалася першая кружэлка маіх песень. Я цяпер яе слухаю з жахам...

**Б. С. — Чаму?**

**Д.** — Там усё занадта недасканалае... У 1974 годзе беларуская моладзь зладзіла паказ талентаў, і я тады першы раз выступіў. Атрымаў прэмію... З таго ўсё і пайшло. Калі мяне добра слухаюць і ўсім падабаецца, дык гэта мяне натхняе. Хацелася больш спяваць. У дзевятнаццаць год я наспяваў тую кружэлку. Яна такая аматарская, голас у мяне там не развіты, і гітара зусім не настроена. У мяне і цяпер ёсць праблемы з голасам, бо працую я ў банку, і часу няма на тое, каб спяваць. Ды і вучыцца спяваць вельмі дорага каштуе. За кожны ўрок — сорак пяць мінут — трэба плаціць 50 долараў. А тут, у Беларусі, кожны дзень у мяне канцэрты, бывае, і па два. На гэта сілы трэба мець... Але я наогул люблю спяваць і хацеў бы, каб гэта стала маім жыццём, кар'ерай...

**Б. С. — Нам вядома, што табе ў нечым дапамаглі нашы «Песняры». Як ты з імі пазнаёміўся, пасябраваў?..**

**Д.** —«Песняры» былі маім натхненнем. Мы ўсе, беларусы, захапляліся «Песнярамі», і асабліва — Лявонам Барткевічам. Калі «Песняры» прыехалі ў Нью-Йорк, то яны ў нашым знакамітым «Брадвэі» выступалі. Мы тады раскупілі ўсе білеты і гуртам пайшлі туды. Пасля канцэрта я зайшоў за сцэну і пазнаёміўся з Мулявіным, Барткевічам і ўсімі астатнімі. Вельмі прыемна было пачуць, што яны ўжо пра мяне таксама ведалі, з першай кружэлкі. З 1977 года я з імі ў добрым кантакце, асабліва з Барткевічам. Перапісваемся, звонім адзін аднаму. Лявон Барткевіч і запрасіў мяне ў Менск. Гэта было дванаццаць гадоў назад... Думаю, вы разумееце, як я рады, што, нарэшце, прыехаў на Беларусь...

**Б. С. — Спадарыня Юля, вы прыехалі ў Мінск пасля доўгай ростані. Якім вы ўбачылі горад свайго маленства, што абудзілася ў вашай памяці, сэрцы?**

**Ю. А.** — Я заўсёды марыла пабываць у Менску і пахадзіць па яго вуліцах, пабыць на тым месцы, дзе я нарадзілася. Я з цяжкасцю пазнаю горад, але старую частку пазнала, там яшчэ засталіся тыя будынкі, што бачыла ў маленстве. Хаты нашай няма — яна стаяла там, дзе цяпер купалаўскі парк. Але я знайшла дом, дзе жыла бабка па бацьку. Мы з Данчыкам каля яго сфатаграфаваліся. Мне вельмі прыемна, што гэтыя дамы маюцца рэстаўраваць. Сам Менск мне вельмі падабаецца.

**Б. С. — А якое ўражанне Мінск зрабіў на Данчыка?**

**Д.** — Ну, я ніколі не быў у Менску, дык не меў ніякага ўяўлення пра тое, які ён. Я бачыў яго толькі на паштоўках. Я проста ехаў у Беларусь. Кажуць, праўда, што гэта не мая Бацькаўшчына... Ёсць слова «атавізм». Я думаю, у мяне вось такое падсвядомае пачуццё. Тут мае карані, таму ўсё вельмі блізкае. Увогуле, у нас у Амерыцы няма ніводнага сапраўднага амерыканца, усе паходзяць аднекуль. Але калі мы цягнікам прыехалі ў Менск, то здалося, што прыехалі дадому. Мяне спаткалі на вакзале, ды так, што я быў проста ў шоку. Цэлы натоўп, многія ў беларускіх строях, з песнямі, з нацыянальным сцягам. Я гэтага ніколі не забуду, бо я заўсёды думаў, што на Беларусі няма Беларусі, няма беларускай мовы. Тыя, хто ездзіў сюды з Амерыкі, расчароўваліся, казалі, што ўсе гавораць толькі па-руску. А тут... Праўда, я па вуліцах не хаджу, я ўвесь час разам са свядомымі беларусамі. Колькасць іх немалая, і будзе расці. Мы радыя, што калі вернемся, то можам паведаміць суродзічам пра ваша нацыянальнае абуджэнне. Людзі ж у Беларусі цудоўныя...

**Б. С. — У Данчыка ёсць брат Юрка. Чым ён займаецца, ці спявае беларускія песні?**

**Ю. А.** — Юрка мае добры голас, але не спявае. Працуе адвакатам...

**Д.** — Ён, відаць, баіцца канкурэнцыі са мною... Наогул, наша беларуская эміграцыя вельмі маленькая, і, як кажуць амерыканцы, вялікая галава не зробіцца з усяго гэтага. У адной газеце напісалі, што я «самы лепшы беларускі спявак». Мая дваюродная сястра жартавала: «І адзіны таксама». Так што я сваю вартасць выдатна ўсведамляю...



ДАНЧЫК, яго маці спадарыня ЮЛЯ, С. СОКАЛАЎ-ВОЮШ, Б. САЧАНКА.

Фота Ул. КРУКА.

**Б. С. — У Амерыцы жыве некальки беларускіх пісьменнікаў. Што вы пра іх ведаеце?**

**Ю. А.** — Мы часта сустракаемся з Наталляй Арсенневай. Яна сяброўка маёй мамы, некалі нават мы ў адным доме жылі. Гадоў пятнаццаць таму яна пераехала ў іншы штат, і цяпер мы бачымся радзей. Летась святкавалі ейнае 85-годдзе... Сустракаемся мы з Масеем Сяднёвым. Ён у апошні час выдаў некалькі сваіх кніг. Знаёмыя мы з Міхасём Кавылём, Янкам Золакам...

**Д.** — Мая бабця з Арсенневай яшчэ з менскіх часоў сябруюць. Калі яна прыязджала на святкаванне свайго юбілею, то спынілася ў нас начаваць. Думаеце, калі жанчыне 85 гадоў дык яна старая і ўсё? А яны з маёй бабцяй (а ёй таксама 80 год будзе ў лістападзе), калі збіраліся на вечар, гаварылі, якія надзець панчохі, і Арсеннева сварылася на бабцю, што тая выбрала бэжавыя, бо цяпер толькі чорныя панчохі ўсе носяць, а бэжавыя не ў модзе. Арсеннева была на высокіх абцасах і з доўгімі завушніцамі. «Чым я не Клеапатра?»— спытала яна. Наогул, яна вельмі адукаваны чалавек, з ёю можна гаварыць на ўсе тэмы, яна ведае літаратуру, музыку...

**Б. С. — На эміграцыі жывуць вядомыя беларускія спевакі Пётр Конюх і Мікола Стрэчань. Працуюць там і беларускія мастакі, вучоныя, кампазітары. Хацелася б пачуць што-кольвечы і пра іх.**

**Ю. А.** — У нас кожны год адбываюцца выстаўкі ў штаце Нью-Джэрсі. Там выстаўляюць свае абразы Надзея Кутасава, Галіна Русак, Тамара Стагаловіч-Кольба, Людміла Каліноўская, Івонка Шыманец-Сурвіла... На тыдні Славянскіх культур яны таксама выстаўляюць свае абразы разам з мастакамі іншых славянскіх народаў...

**Б. С. — З друку мы ведаем пра вашы танцавальныя і харавыя калектывы, некаторыя з іх мне ўдалося пабачыць у час майго прабывання ў Злучаных Штатах Амерыкі. Нядаўна адзін ваш ансамбль — «Васілёк»— наведаў Беласточчыну...**

**Д.** —«Васілёк» — лепшы наш калектыў. У ім бяруць удзел людзі рознага ўзросту, ад 15 да 55 гадоў. Але нягледзячы на гэта, усе яны сябруюць. Гэта цэнтр маладзёжнага беларускага руху. Калектыў не прафесійны. У ім танцуюць лекары, адвакаты, словам, усе працуюць па іншых спецыяльнасцях. Але час ад часу збіраюцца разам. У мінулым годзе «Васілёк» выступаў у вельмі славутай зале на Манхэтане — у «Лінкольн-цэнтры». Там выступалі ўсе славянскія народы — украінцы, рускія, палякі, македонцы... Беларусы былі не горшыя ад іншых, яны таксама захаплялі ўсіх. Танцавалі яны тады «Польку-Янку» і «Лявоніху»...

**Ю. А.** — Гэты калектыў танцаваў разам з іншымі і каля статуі Свабоды, калі адзначалася 200-годдзе Амерыкі... Вучыць танцаваць «Васілёк» Ала Орса-Рамана. Яна прафесар хіміі, выкладае ва універсітэце...

**Д.** — З «Васільком» хацеў паехаць на Беласточчыну і я, каб потым ужо адтуль прыехаць у Менск. Але ўсё ніяк не прыходзіла віза...

**Б. С. — Ці ёсць сярод беларусаў у Амерыцы мільянеры і як яны ставяцца да беларускай справы?**

**Д.** — Можа, іх нельга назваць яшчэ мільянерамі, але што некаторыя сямейкі жывуць добра, то гэта так. Некаторыя з іх вельмі дапамагаюць беларускай справе, ахвяруюць на гэта грошы. Напрыклад, апошняя кружэлка, якую наспявалі мы з Барткевічам, каштавала 20 тысяч долараў. Беларусы сабралі гэтыя грошы, і дзякуючы ім кружэлка выйшла...

**Б.С. — Спадарыня Юля, што вы адчуваеце, калі чуеце, як спявае ваш сын?**

**Ю . А.** — Мне гэта прыемна, але, здаецца, пасля гэтых канцэртаў я не змагу больш яго слухаць.

**Б. С. — Ці чуў Данчык калінебудзь беларускія песні ў выкананні Забэйды-Суміцкага?**

**Д.** — Так, чуў. Яго голас мне вельмі падабаецца. Але ці спадабаўся б яму я? Бо я люблю закурыць, а то і выпіць. Калі ў такія хвіліны мяне хто бачыць, то кажуць: «А вось Забэйда-Суміцкі ніколі не піў, не курыў, хадзіў заўсёды з завязаным горлам».

**Б. С. — Ці думаў ты, што ў Беларусі цябе так шырока ведаюць, любяць, што маеш столькі прыхільнікаў твайго таленту, што на твае канцэрты будзе збірацца столькі людзей?**

**Д.** — Гэта было для мяне нечаканым... Я тут шчаслівы, як ніколі ў жыцці...

**Б. С. — Калі ты паедзеш з Беларусі, многім тут у нас цябе не будзе ставаць.**

**Д.** — А мне не будзе ставаць усіх тых, хто мяне любіць і так горача прымае.

**Б. С. — Што ж, тады не парывайце з Бацькаўшчынай сувязі, часцей прыязджайце да нас, у Беларусь.**

Запісала С. САЧАНКА.
студэнтка філфака БДУ
імя Леніна.

# ПЕРАМАГАЕ ЗДАРОВЫ СЭНС

**(Пачатак на стар. 2—3).**

...нымі ў сваіх правах парламентарыямі, што вырашаюць вузлавыя пытанні жыцця рэспублікі, ці «пасланцамі», якія ўспрымаюць гэты гонар як узнагароду за добрую працу, як вынік добрага стаўлення да сябе начальства, і таму асцярожнымі, пасіўнымі, абачлівымі?

**За дзень да пачатку сесіі я чуў па рэспубліканскім радыё рэпартаж з залы рэгістрацыі дэпутатаў. Журналісты (іх было двое — жанчына і мужчына) расказалі, сярод іншага, і пра тое, як безвынікова закончылася іх спроба ўзяць інтэрв'ю ў некаторых дэпутатаў. У адказ чулася аднолькавае: «Ай, не ведаю, пра што гаварыць», «Ніякіх дакументаў я не чытаў, не ў курсе», «Спытайце ў іншых». На пытанне, за што яны будуць галасаваць, дэпутаты адказвалі: «За што іншыя, за тое і мы».**

**Я тады паспачуваў калегам, бо разумею, што значыць вярнуцца ў рэдакцыю з нявыкананым заданнем. А праз дзень мне было ў пару спачуваць самому сабе. Я таксама вырашыў узяць некалькі інтэрв'ю ў дэпутатаў, Недзе каля шасці гадзін вечара з разгорнутым рэдакцыйным пасведчаннем у руках, шмат разоў спынены (уся плошча імя Леніна была ачэплена шчыльным кальцом міліцыі), прабіваўся да Дома ўрада, дзе праходзіць сесія. Неўзабаве з дзвярэй купкамі і паасобку пачынаюць выходзіць дэпутаты. Вось гэтых—мужчын без паліто і шапак, што спяшаюцца да «Волг», якія пад'язджаюць да пад'езда адна за адной,—прапускаю. Буду гутарыць з «радавымі». Падыходжу да трох жанчын у паліто і хустках. «Вы дэпутаты?»—«Так». «Я з рэдакцыі, можна з вамі пагутарыць?» Жанчыны замахалі рукамі: «Не можам, спяшаемся на канцэрт». Яшчэ адна спроба. Дэпутатка таксама адмахваецца: «Спытайце лепш у мужчын, яны больш дасведчаныя...» Наступная спроба. На гэты раз ужо мужчына ўздыхае: «Я мала што зразумеў». Яшчэ адзін: «Вы лепш за мяне ведаеце...» Плёнка ў маім дыктафоне засталася чыстай...**

**М. ЗАМСКІ,**
**наш спецкар.**

**P. S. Прачытаў у друку, што на сесіі было заслухана тлумачэнне дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Г. Ерамеева, які прыняў удзел у несанкцыянаваным мітынгу 26 кастрычніка ў Мінску. Старшыня Мінскага гарвыканкома дэпутат У. Міхасёў, падлічыўшы ўрон ад мітынгу гаспадарцы горада ў суме 125 тысяч рублёў (цікава, як нарадзілася гэтая лічба?), патрабаваў спагнаць з «вінаватых» дэпутатаў частку гэтай сумы. Вось якая вынайдзена «парламенцкая» працэдура пакарання за непаслухмянства. Каб, маўляў, гэта было надалей урокам для іншых «непаслухмяных»... М. З.**

# «...Устрывожаны подыхам заўтра»

СЯРГЕЙ Ракіта... Імя не сказаць каб вельмі гучнае ў беларускай паэзіі канца дваццатых - трыццатых гадоў. Былі і аўтары куды больш яркія, самабытныя, але яшчэ з часоў майго студэнцтва поруч з іншымі запомнілася і гэтае. На тое была прычына. Сапраўднае прозвішча Ракіты — Законнікаў, Сяргей Васільевіч, а на нашым курсе таксама вучыўся Сяргей Законнікаў. Праўда, Сяргей Іванавіч. Пляменнік Сяргея Ракіты па бацьку. Ён ужо на той час надрукаваў свае першыя вершы, карыстаўся вядомасцю сярод студэнтаў.

Расказваў Сяргей і пра дзядзьку. Гэтыя звесткі дапаўняліся пачэрпнутым з даведніка «Пісьменнікі Савецкай Беларусі». Нарадзіўся Сяргей Ракіта 15 кастрычніка 1909 года ў вёсцы Літвінава цяперашняга Дубровенскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў так званую «школу другой ступені». Яшчэ вучнем пісаў у аршанскую акруговую газету «Камуністычны шлях». У дваццацігадовым узросце атрымаў накіраванне ў рэдакцыю гомельскай абласной газеты «Палеская праўда». З 1930 года быў кіраўніком Гомельскай філіі Беларускай Асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, служыў у арміі, пасля дэмабілізацыі жыў у Мінску. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава і адначасова працаваў у рэдакцыях газет, на радыё, у Дзяржаўным выдавецтве БССР.

Як і многія іншыя пісьменнікі, С. Ракіта стаў ахвярай сталінізму. Рэабілітаваны, у літаратуру «вярнуўся». Яго адзіную кніжку «Я агітую за пяцігодку», выпушчаную ў 1934 годзе, можна было ўзяць у беларускім аддзеле Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Праўда, творы С. Ракіты друкаваліся і ў калектыўным зборніку «Разгон», які Гомельская філія БелАППА выдала ў 1930 годзе. У ім імя С. Ракіты стаяла поруч з імёнамі Вячаслава Палескага і Рыгора Казака. Прозвішча апошняга і стала прычынай таго, што кніжку адправілі ў так званы «спецхран».

Праходзіў час, а мне ўсё хацелася ўбачыць, патрымаць у руках яе, такую загадкавую, далёка «схаваную». Аднак сустрэча адкладвалася, бо «спецхраны» маўчалі, неахвотна адкрываючы свае «тайны». Чарга да зборніка «Разгон» не падыходзіла.

І раптам — выстаўка ў Палацы культуры Белсаўпрофа. Адна з першых экспазіцый, якія вярнулі з небыцця імёны ахвяр сталінізму і тым самым прыўзнялі заслону над замоўчваннем многіх балявых момантаў нашай гісторыі, у тым ліку гісторыі літаратуры. На выстаўцы сабралася шмат рэдкіх здымкаў, газетных публікацый, а таксама кніг пісьменнікаў, якія ў свой час былі аб'яўлены ворагамі народа, трапілі ў турмы, пайшлі этапамі, а многія і загінулі, не змаглі вярнуцца на Беларусь.

Сярод гэтых унікальных экспанатаў быў і зборнік «Разгон». З хваляваннем узяў яго ў рукі. Прабег хуценька адзін верш, другі... Бунтарнасць, рашучасць, якія пераходзяць у ваяўнічнасць. — усё ў духу С. Ракіты, так добра знаёмае па кніжцы «Я агітую за пяцігодку». Гэткі ж заклік да дзеяння, непрыманне думак, адрозных ад тваіх, гарачае, непрыхаванае жаданне змагацца з усім старым, аджыўшым.

Адразу запомнілася: «Я спушчаю курок на пістон па камандзе вялікіх дзён: прыцэл — і агонь!» У другім вершы прачыталася падобнае па свайму максімалізму: «Ды трэба ўпартыя сілы і розум ў рубільнік будоўлі ўключыць».

Пасля гэтай выстаўкі і падумаць не мог, што больш дэталёвае знаёмства з кніжкай адцягнецца яшчэ на некаторы час. Але зноў праходзіў месяц, другі... «Разгон» па-ранейшаму не называўся ў каталозе, значыўся як адзіны зборнік С. Ракіты «Я агітую за пяцігодку». Толькі праз якога паўгода, не без росшукаў работнікаў «Ленінкі», удалося нарэшце перачытаць гэтую кніжку паэта. Не агаварыўся, кніжку. Творы кожнага з трох аўтараў у «Разгоне» аб'яднаны самастойнай назвай. Так сказаць, зборнікі ў зборніку. У С. Ракіты — «Альбо — альбо», пазначаны, як «цыкл вершаў».

Назва, як бачна, катэгарычная. Хаця, чаму «катэгарычная»? Прыгадайма кніжкі іншых паэтаў, выдадзеныя ў гэты час: «Устаноўка» А. Александровіча, «Камсамольская нота» А. Александровіча і А. Вольнага, «Прамова фактамі» П. Броўкі, «Штурм» Ю. Лявоннага. «Аднагалосна» М. Лужаніна. Можна прывесці і іншыя прыклады. Тагачасныя маладыя паэты не хавалі палітычнай скіраванасці сваіх твораў, агітавалі за новае, верылі ў сусветную рэвалюцыю.

Тым не менш С. Ракіта «апярэдзіў» іншых. «Альбо — альбо» — гэта ўжо не проста агітацыя фактамі, вершамі. У самім загалоўку — арыенціроўка на пазіцыю, адметную ад іншых. Паэт не сумняваецца, што ён мае права гаварыць менавіта так, а не інакш.

Голас самога паэта і яго лірычнага героя гучыць ва унісон у «Нелірычным выступленні». Твор быў для С. Ракіты праграмным, прынамсі, для гэтага перыяду, калі ён, стаўшы супрацоўнікам «Палескай праўды», на ўсе грудзі ўдыхнуў паветра новага, абнаўляльнага жыцця. Юнацкі максімалізм, падмацаваны камсамольскай задзірыстасцю, упэўненасцю, што цяпер, ва ўмовах Савецкай улады, патрэбны змены ва ўсім, нават у інтымнай сферы, далі падставы паэту заявіць: «Нежань пачуццяў — у дым!» І тут жа дадаць: «Ахвярамі ідэалагічных выгнанняў... сорамна быць маладым».

Верш «Рэканструкцыя пачуццяў» таксама сведчыць у карысць падобнай думкі. Эпіграфам да твора паэт узяў вядомыя ў той час радкі А. Безыменскага:

**Человек сам себе награда,**
**Если только умеет жить.**
**Я учусь, неустанно учусь**
**Укреплять диктатуру победы —**
**Большевистскую фракцию**
**чувств.**

Што ж значыць «умець жыць» па-ракітаўску? Проста неабходна адмовіцца ад асабістага дзеля грамадскага. Як заклінанне гучыць: «К чорту слязлівую нежань...»

Як бачна са зместу верша, ён з'явіўся на дакументальнай аснове. С. Ракіта прыгадвае таварыша Якуба, з якім прынцыпова не пагаджаецца ў стаўленні да жыцця. Навокал жа столькі спраў: «Працаю зможам, і толькі, права здабыць на жыццё». Навокал «разбег навальніц, урываецца ў шчыліны, у кожныя дзверы зіянне вялікіх зарніц».

Якуб жа ўсяго гэтага як бы не заўважае. Для С. Ракіты проста страшна, што яго таварыш, які таксама піша вершы, цалкам заглыбіўся ў інтымныя матывы. Прысуд строгі, адпаведна часу: «Цяпер я магу зразумець дасканала тваіх светапогляд стан — мяшчанская багна цябе засмактала, і ты — ідэолаг мяшчан».

Заўважым, што зборнік «Я агітую за пяцігодку» быў выдадзены рэдакцыяй газеты «Палеская праўда» (павучыцца б гэтаму нашым цяперашнім абласным газетам!). Яшчэ раз падкрэслім, што тады С. Ракіта з'яўляўся кіраўніком Гомельскай філіі БелАППА.

Якая атмасфера была ў краіне — зразумела. А цяпер уявім сябе на месцы С. Ракіты... Пра што павінен ён быў пісаць? Пра кветачкі, пацалункі пры месяцы, уздыхі на лавачцы ці пра «новы дзень электрыкі. Фабрык і заводаў, дзень калгасных спелых, ураджайных ніў»?

Пра што? Пазнаёмімся з артыкулам Л. Розэнблюма, якім адкрываецца зборнік. Гэта публікацыя, сціпла названая «Замест прадмовы», ці не самы рэдкі выпадак у крытычнай практыцы. У самой кніжцы ўсяго 64 старонкі, уступны ж артыкул займае ажно 12 старонак!

На пачатку Л. Розэнблюм «у духу часу» нагадвае аб ролі слова ў час рэвалюцыйных зрухаў:

**«Немалаважнае значэнне ў агульным арсенале класавай барацьбы мае мастацкае слова, якое сілай свайго агітацыйнага, мабілізуючага ўплыву здольна натхніць змагаючыся лагер энтузіязмам, парывам, самаадданасцю. Іменна таму няма і не можа быць нейтральнай літаратуры, няма і не можа быць літаратуры надкласавай, пазакласавай, як і не існуе і не можа існаваць гарматы, якая б страляла ў паветра». Далей жа, канечне, пра абвастрэнне класавай барацьбы, яшчэ крыху далей: «Абвостраная класавая барацьба, адбываецца, як і заўсёды адбывалася, і на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва». Крытык папярэджваў, што «поруч з вялікадзяржаўным шавінізмам, гэтай галоўнай небяспекай на даным этапе, дапамагаючы і дапаўняючы яго, аджываючыя класы раней прыгнечаных нацый пускаюць у ход зброю нацыянальнай абмежаванасці, зброю мясцовага шавінізму, які знайшоў у нас, у БССР, сваё найбольш яскравае адлюстраванне ў контррэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызме».**

**Называюцца канкрэтныя прозвішчы беларускіх «нацыяналістаў»: «Беручы нацыянальную форму выкладання сваёй ідэалогіі, плача контррэвалюцыйны беларускі паэт Дудар разам са сваім «старым лесуном» па апошніх карчах «старажытнай» Беларусі, Беларусі капіталістаў, абшарнікаў і кулацтва, па тых карчах, якія так рашуча і настойліва выкарчоўвае пралетарыят і, пад яго кіраўніцтвам, бядняцка-серадняцкае сялянства БССР, разам з дапамогай пралетарыяту іншых савецкіх рэспублік». Перапала ў гэтым артыкуле і Язэпу Пушчы, які «б'ецца... за аднаўленне буржуазнай Беларусі, за разруйнаванне, з дапамогай штыкоў польскага фашызму, сацыяліс-**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Яшчэ раз пра гісторыю з «Гісторыяй...»

**Каля шасці гадоў назад Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР пачаў працу над шматтомным выданнем «Гісторыя населеных пунктаў Беларусі». Было задумана вывучыць гісторыі ўсіх гарадоў, сёл, мястэчак, вёсак, пасёлкаў, хутароў рэспублікі і выпусціць фундаментальныя кнігі па кожнай вобласці і Мінску. У інтэрв'ю, дадзеным дырэктарам інстытута С. Марцэлевым карэспандэнту газеты «Літаратура і мастацтва» 15 лістапада 1985 г., быў названы год выхаду ў свет першага тома, прысвечанага Магілёўскай вобласці,—1988.**

**Я, тагачасны навуковы супрацоўнік ІМЭФ АН БССР, з недаверам успрыняў тое інтэрв'ю. Ведаючы сапраўдны стан спраў у інстытуце, я сумняваўся ў рэальнасці абвешчанага дырэктарам. Пра гэта, увогуле, пра важныя і балючыя праблемы, звязаныя з надзвычай адказнай працай, мною быў надрукаваны ў «Советской Белоруссии» артыкул «История с историей» (28 верасня 1986 г.). Артыкул абмяркоўваўся ў калектыве супрацоўнікаў інстытута, у аддзяленні грамадскіх навук АН БССР. Было шмат гаворак, але... не было дзелавых, кардынальных рашэнняў...**

**Прайшло амаль два гады. Колькі-небудзь істотных змен не адбылося: тыя ж нявырашаныя пытанні, тыя ж пякучыя праблемы. І я зноў узяўся за пяро—у «Літаратуры і мастацтве» 17 чэрвеня 1988 г. з'яўляюцца мае нататкі «Балючы роздум». Была зроблена яшчэ адна спроба звярнуць увагу грамадскасці на катастрафічнае становішча, у якім апынулася надзвычай важная справа з выданнем «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі». У падтрымку «Балючага роздуму» ў «ЛіМе» неўзабаве выступілі М. Спірыдонаў, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР,—«Яшчэ не позна» (2 верасня) і А. Мальдзіс, загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, —«Патрабуецца іншы падыход» (30 верасня).**

**Як вядома, рэагаванне на крытычнае выступленне друку належыць рабіць праз месяц пасля публікацыі. Між тым, мінула амаль паўтара года, а — ніякага рэагавання адпаведных устаноў і інстанцый.**

**Маўчыць Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, адзін з аддзелаў якога цалкам заняты падрыхтоўкай шматтомніка і які каардынуе працу ўсіх саўдзельнікаў выдання. Абмеркавання публікацый не было. Ды, шчыра кажучы, яго і не магло быць, бо, дайце веры, далёка не ўсе супрацоўнікі калектыву чыталі тыя лімаўскія публікацыі. Не ведаю, ці чытаў іх і сам С. Марцэлеў—загадчык аддзела гісторыі культуры Беларусі і дырэктар інстытута. Пэўна ж, не чытаў, таму і няма ніякага рэагавання на выступленні друку.**

**Не надта разумею я і пазіцыю кіраўніцтва аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Калі друк піша пра пагрознае становішча з вельмі важным навуковым выданнем і больш за год інстытут ніяк не рэагуе на гэта, ці не варта было б таварышам з аддзялення занепакоіцца і высветліць, чаму ж так?**

**У сувязі з гэтым згадваецца такое. Пасля публікацыі ў «Советской Белоруссии» «Истории с историей» аддзяленне грамадскіх навук АН БССР абмяркоўвала выступленне газеты і справы з выданнем «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі». Праўда, тое абмеркаванне адбылося пасля таго, як рэдакцыя газеты на змешчанае ёю выступленне атрымала з інстытута АДКАЗ-АДПІСКУ і звярнулася да высокай акадэмічнай інстанцыі з просьбай разгледзець па сутнасці ўзнятыя ў артыкуле праблемы. Няўжо зноў патрабуецца зварот рэдакцыі газеты, каб аддзяленне грамадскіх навук зрабіла тое, што яму належыць рабіць без падобных зваротаў?..**

**А тым часам запушчаны канвеер набраў разгон і выдае прадукцыю. Вопыту, вядома ж, не было. Праўда, меўся вопыт навукоўцаў з Украіны, якія ў 1967—1974 гадах выпусцілі аналагічнае выданне «Гісторыя гарадоў і сёл Украінскай ССР». Грунтоўнае, удалае выданне, адзначанае Дзяржаўнай прэміяй СССР. Кіраўніцтва нашага інстытута не толькі не наладзіла паездкі ў суседнюю рэспубліку, каб разведаць, распытаць пра методыку, навукова-творчы працэс, выпрацаваныя ўкраінскімі калегамі для стварэння сваёй «Гісторыі...», а нават не абмеркавалі ў калектыве выдадзеных на Украіне тамоў. Нібыта нічога павучальнага ў іх няма. Ну, а практычна-арганізацыйная рэалізацыя вывучэння гісторыі населеных пунктаў украінцамі, якія за сем гадоў выдалі дваццаць шэсць тамоў,— хіба і тут не было нічога павучальнага?**

**Ці не празмеру самаўпэўненым і саманадзейным было рашэнне вырашаць вельмі цяжкую задачу, цалкам пакладаючыся на сябе, на свае кадры, якія, да таго ж, упершыню сутыкаліся з працай такой складанасці? І ўвогуле—навошта церабіць дарогу, калі побач ужо ёсць у тым жа кірунку працярэбленая дарога? Самастойнасць—рэч, вядома, добрая і пахвальная, а вось калі вынаходзіцца веласіпед...**

**Тое, што ў 1988 г. не быў выдадзены абяцаны першы том «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі», натуральна, выклікае пытанне, што ж здарылася: навукова-даследчы канвеер працуе, а дзе яго прадукцыя?**

**Прадукцыя, аказваецца, ёсць. Як расказалі мне намеснікі галоўнага рэдактара «БелСЭ» А. Петрашкевіч і І. Хаўратовіч, іх выдавецтва азнаёмілася з прадстаўленым інстытутам томам «Гісторыі...» па Магілёўскай вобласці. Рукапіс аказаўся на нізкім прафесійным узроўні. Бедны на фактычны матэрыял, прымітыўна, шаблонна напісаны. Не гісторыі канкрэтных населеных пунктаў, а сякія-такія даведкі пра іх.**

**Том быў вернуты ў інстытут з заключэннем—выдаваць у такім выглядзе «БелСЭ» адмаўляецца, у планы выпуску «Гісторыі...» увогуле не ўключаюцца.**

**Пра гэта вельмі сур'ёзнае рашэнне кіраўніцтва «БелСЭ», як ні дзіўна, амаль не ведаюць у калектыве аддзела гісторыі культуры Беларусі ІМЭФ. Ніхто з тых, з кім я сустракаўся, пра яго не ўсчынаў гаворкі. Нібыта нічога не здарылася—працуюць, як і раней. Не чулі пра яго і ў Інстытуце гісторыі. па-ранейшаму сямёра гісторыкаў выконваюць свае планавыя тэмы. Няма патрэбы казаць, што гэтая навіна не дайшла да іншых сааўтараў «Гісторыі...», якія жывуць і працуюць па-за Мінскам.**

**Не чуў пра адмову «БелСЭ» выдаваць «Гісторыю...» і акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук М. Бірыла (прынамсі, да размовы са мной). Не чуў пра гэта і віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Навуменка.**

*Помніць, ведаць, зберагаць*

# Не нашкодзь!

Унікальны Нясвіжскі *парк... Сёння яго пазнаць* цяжка. Па старым парку снуўдаюцца самазвалы, бульдозеры і іншая магутная тэхніка. Зямля перакапана глыбокімі каляінамі. У гаях зеўраюць шырокія прагалы. У парку гуляюць скразнякі. Зніклі ціхія ценістыя таемныя куточкі. Не чутно спеву птушак. Пахне саляркай і застоенай балотнай вадой. Ідзе рэстаўрацыя старадаўняга парку...

Канечне, парк меў патрэбу ў дапамозе, але ў якой? Цяперашнія аднаўленчыя работы, як бачна, прынеслі прыродзе больш шкоды, чым карысці (галоўны архітэктар праекта рэстаўрацыі — М. Жлоба, «Мінскпраект»).

Хоць праект атрымаў першую прэмію і дыплом, я лічу канцэпцыю рэстаўрацыі няправільнай. Разбураны рамантычны вобраз парку. Знікла яго паэтычнасць, інтымнасць. Стары парк, што ўзнік як пейзажны, з плаўным пераходам у натуральную прыроду, змяніў сваё першароднае аблічча. Але ці быў сэнс узнаўляць яго такім, якім ён быў пры Радзівілах?

За доўгія гады існавання парку прырода яго настолькі змянілася, што вярнуць яму першапачатковы стан немагчыма, ды і не патрэбна. Па сутнасці, змяніўся ўвесь ландшафт, склалася новая эстэтычная сітуацыя, парк набыў новую якасць, і ўрывацца ў гэтую кволую тканіну небяспечна. Мне здаецца, што, працуючы над праектам, у першую чаргу трэба было ўлічыць менавіта гэтую сітуацыю. Не разбураць ужо складзены ў часе новы вобраз, а толькі ўпарадкаваць яго, выявіць, падкрэсліць яго рамантычнасць і інтымнасць. Прыслухацца да яго цішыні, якая выклікае спакой і сузіральнасць. Бо прырода ўжо ўвайшла з чалавекам у новыя адносіны. І гэты ўзаемны давер разбураць бездухоўна. Асабліва ў такім унікальным месцы, як Стары парк у Нясвіжы.

Аднаўленчыя работы не вылучаюцца далікатнасцю. Ці варта было высякаць так многа дзікарастучых дрэў і кустарнікаў (так званы «самасей»)? Яны ж у нечым нават узбагацілі культурныя пасадкі, надалі дынамізм і складанасць *пейзажнай кампазіцыі*. У рэшце рэшт, гэта ж не батанічны сад і не парк культуры і адпачынку.

**Высечка кустарнікаў, старых дрэў, разбурэнне травянога покрыву парушылі біялагічнае асяроддзе, якое склалася за доўгія гады. Парушаны фітацэноз — згуртаванне старых кустарнікаў і травяных раслін. Парушана жыццёвая ўзаемасувязь. Бо спілаваныя старыя дуплістыя дрэвы служылі жыллём для птушак. У кустах гнездаваліся насякомыя. Высякалі хворыя, а скалечылі грубай тэхнікай маладыя, здаровыя. Значыць, і яны таксама асуджаны на хваробу.**

**Бязлітасная высечка апраўдвалася тым, што дзікія дрэвы перашкаджаюць па-родзістым, якія, нібыта, растуць непрыгожымі, аднабокімі. А дрэвы ж падтрымліваюць адно аднаго, памагаюць выстаяць у буру, навальніцу. Прырода сама адрэгулявала іх суіснаванне. Сумна стала ў парку. А раней жа тут спявалі салаўі!**

**Ці быў сэнс аднаўляць усю старую планіровачную структуру Старога і Марысінага паркаў? Ну, можа, дзве-тры асноўныя алеі, арыентаваныя на перспектыву замка. У праекце парушаны *пейзажны тып планіроўкі*. Цяпер уся тэрыторыя парку зрэзана густой, зусім нефункцыянальнай сеткай дарожак з цвёрдым пакрыццём. Мала таго, што дарогі вельмі шкодныя для раслін, гэта знішчае цэльнасць травянога масіву. Амаль усе паляны страцілі сваю былую прыгажосць. Сетка дарог перакроіла зялёную прастору палян на шматкі. Асабліва не пашанцавала самай вялікай, самай урачыстай Выставачнай паляне са старой тапаляй. Уся прастора гэтай цудоўнай сонечнай паляны ўздоўж і ўпоперак зрэзана дарожкамі. Тут было так многа паветра, святла, прасторы! Цяпер знікла адчуванне кампазіцыйнай цэльнасці, урачыстасці. Каму патрэбны гэты лабірынт дарожак? Раней у парку былі непрыкметныя сцяжынкі. Яны то з'яўляліся, то знікалі. Захавалася натуральнасць, адчуванне зямлі пад нагамі, мяккага дывана з апалага лісця. А цяпер толькі шоргат пяску...**

**І наогул, ці не занадта шмат з'яўляецца ў парку ўсялякіх масткоў, каскадаў, гротаў, фантанаў і іншай так званай малой архітэктуры? Адбываецца гэтакае *«акультурванне»* парку з элементамі забаўляльнасці. Міжволі ўзнікае такое ўражанне, што ўсе гэтыя збудаванні праектаваліся толькі дзеля таго, каб выкачаць пабольш грошай. А сродкі выдаткаваны вялікія. Ці апраўдаюцца яны?**

**Вялікія змены з'явіліся і ў прыбярэжных зонах сажалак Дзікай і Замкавай. Непазнавальныя сталі іх берагі! Асабліва левабярэжны бок, дзе былі высечаны прыбярэжныя кусты *і разгалістыя вербы*, якія актыўна афармлялі берагі. Праекціроўшчыкі адвольна змянілі берагавую лінію. З'явіліся новыя залівы, бухты, мысы. Змянілася нават форма астравоў. Цяпер берагі абкладзены недарэчнай мураванай кладкай. А ўсе гэтыя знарочыста пакладзеныя валуны, чыгунныя колцы на набярэжнай ствараюць уражанне фальшывай бутафорнасці. У парку плануецца паставіць сучасную скульптуру, створаную па матывах існуючых раней —«Студню Ундзіны», «Георгія Пабеданосца з драконам», «Гімн кахання» і інш. Ці атрымаецца і тут захаваць пачуццё меры? Ці не з'явіцца дысанансам тут сучасная скульптура? Тым больш, што ў нас няма вопыту работы над паркавай скульптурай. Стылізацыя ж напэўна акажацца фальшывай. Так, праблем шмат. Будзем спадзявацца, што гадоў праз дзесяць-пятнаццаць, як абяцае аўтар праекта, усё будзе цудоўна. Падрастуць маладыя дрэвы, кусты, кветкі. Але куды схаваешся ад бетонных збудаванняў, дарог? Добра, калі яны зарастуць травой, але як? Яны ж каменныя. І галоўнае — будзьце асцярожныя з унікальным паркам! Не трэба яго ўпрыгожваць. Ён і цяпер вельмі прыгожы. Ён толькі хворы.**

**Што ж зрабіць цяпер, як выправіць тое, што яшчэ можна выправіць? Ну, канечне ж, зноў ачысціць Дзікую *сажалку, якая пачала* зарастаць пасля няўдалай ачысткі. Скараціць колькасць архітэктурных аб'ектаў. Прыбраць хоць бы частку паркавых дарожак. І, нарэшце, паназіраць за якасцю работ. Яна не вытрымлівае ніякай крытыкі. Аўтар праекта наракае на тое, што пасадка новых насаджэнняў вядзецца не зусім прафесійна, што няма спецыяліста, які б назіраў за работамі ў парку. Але ж у Нясвіжы ёсць актыўныя людзі. Яны *маглі б стварыць камісію* грамадскага садзеяння аднаўленню парку, куды маглі б увайсці настаўнікі школ, галоўны архітэктар горада і, канечне ж, Г. Лістапад — біёлаг, які шмат гадоў аддаў рабоце ў Нясвіжскім парку. Улюбёны ў сваю справу спецыяліст, ён дасканала ведае ўвесь арганізм парку і яго гісторыю і мог бы стаць кваліфікаваным кансультантам *у перыяд рэ*стаўрацыйных работ.**

**У нашым жорсткім тэхнакратычным свеце, у век індустрыяльнай экспансіі прырода адухоўлівае нас, выхоўвае ў нас дабро, дорыць нам радасць. Будзем жа мудрымі і беражлівымі з ёй. Успомнім вядомую запаведзь — «Не нашкодзь!».**

**Арлен КАШКУРЭВІЧ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

## РАКАЎСКІ ЛЕТАПІСЕЦ

**Есць на *Валожыншчыне* старажытная вёска Ракаў, якая мае багатую гісторыю і існуе больш за пяцьсот гадоў. У ёй жыве вядомы ва ўсёй акрузе мясцовы летапісец, таленавіты краязнаўца Васіль Пятровіч Налецкі, якому нядаўна споўнілася 70 гадоў.**

**Каля 40 гадоў Васіль Пятровіч займаецца краязнаўчай работай. Гэтаму спрыяла тое, што па прафесіі ён — настаўнік гісторыі, самаахвярна ўлюбёны ў родны край. Нялёгка было спалучаць асноўны занятак з работай следапыта. Захапленне краязнаўствам прыносіла Налецкаму радасць. Каля 20 гадоў назад стварыў Васіль Пятровіч у школе краязнаўчы музей, у якім былі сабраны пры актыўным удзеле вучняў багатыя матэрыялы па гісторыі краю. Цяпер музей месціцца на другім паверсе школы.**

**Піша пісьмы краязнавец у архівы Беларусі і Літвы, адтуль прыходзяць цікавыя каштоўныя звесткі, падтрымлівае цесныя сувязі з краязнаўцамі раёна, арганізоўвае з вучнямі цікавую пошукавую работу. Шкада толькі, што пад музей не выдзелена асобнае памяшканне. Ды і большай дапамогі заслугоўвае самаахвярная краязнаўчая дзейнасць Налецкага і з боку кіраўніцтва школы, і з боку выканкома Ракаўскага сельскага Савета.**

**Я ўдзячны Васілю Пятровічу, што прыцягнуў і мяне да краязнаўчай работы, з прыемнасцю ўспамінаю, як чатыры гады назад мы абследавалі і апісалі флору і фаўну, помнікі гісторыі і культуры басейна ракі Ісланч, як рыхтавалі і праводзілі свята ў гонар памяці пісьменніка-дзекабрыста А. А. Бястужава-Марлінскага паблізу Ракава ў Выганічах.**

**Некальні гадоў Васіль Пятровіч збіраў матэрыял аб роднай вёсцы, напісаў у 1976 годзе яе гісторыю. Шмат сіл і настойлівасці прыклаў летапісец Налецкі, каб апісаць і надрукаваць у 1983 *годзе гісторыю Ракаўскай* сярэдняй школы, а праз два гады — гісторыю мясцовага саўгаса.**

**Збірае Налецкі матэрыялы пра героя грамадзянскай вайны, ураджэнца вёскі Ясьманаўцы, што недалёка ад Ракава, Біча Івана Андрэевіча, пра ўраджэнцаў былога фальварка Адашарын, удзельнікаў паўстання 1863 года, вучоных з сусветна вядомымі імёнамі братоў Бенядзікта Іванавіча і Уладзіслава Іванавіча Дыбоўскіх. Шукае звесткі пра вядомага кампазітара, паўстанца 1863 года, што жыў у Ракаве, Міхаіла Рудольфавіча Грушвіцкага.**

**Можна было б яшчэ доўга расказваць пра пошукі і знаходкі Налецкага. Але, думаю, хопіць і сказанага, каб зразумець, які гэта чалавек і якую неабходную справу робіць, як глыбока паважаюць ракаўцы свайго *летапісца*.**

**Г. РАВІНСКІ,**
**дырэктар Шыкуцёўскай васьмігадовай школы.**




**З 6 ПА 12 ЛІСТАПАДА**

**6 лістапада, 15.45**

**РАДЗІМІЧЫ**

**Літаратурна-мастацкі часопіс.**

**Журналіст А. Бароўскі прадстаўляе новую кнігу вершаў і яе аўтара — выкладчыцу роднай мовы і літаратуры ў школе Т. Мельчанку.**

**Светлагорск адзначае сваё 350-годдзе. Першая яго назва, якая ўпамінаецца ў вопісу Бабруйскага староства, — Шацілавічы. Аднаўлена повязь стагоддзяў, *эстафету пакалення* прымаюць светлагорцы.**

**Веткаўскі музей народнай творчасці пазнаёміць са сваёй новай экспазіцыяй.**

**6 лістапада. 19.35**

**«ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА»**

**Праграма (II частка) прысвечана 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Удзельнічаюць пісьменнікі Э. Ялугін, С. Грахоўскі, С. Шушкевіч, скульптар З. Азгур, гісторыкі А. Кароль, В. Скалабан, артысты Ю. Авяр'янаў, Л. Улашчанка.**

**6 лістапада. 20.20**

**«ВУЗЕЛ СУВЯЗІ»**

**Прэм'ера дакументальнага фільма БТ. Стужка знаёміць з праблемамі і турботамі буйнейшага ў рэспубліцы вузла сувязі — Мінскага галоўпаштамта.**

**Аўтар сцэнарыя — І. Заяц, рэжысёр — В. Жыгалка, аператар — Ю. Санжарэўскі.**

**7 лістапада. 15.45**

**І. ПРУТ. А. ЧАРНЯК.**
**«НЕЗАБЫЎНАЯ НОЧ»**

**Спектакль БТ. Рэжысёр-пастаноўшчык — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Карпілаў, мастак — А. Шкаева, вядучы аператар — В. Булдак. У ролі У. І. Леніна — заслужаны артыст БССР І. Шэлестаў.**

**7 лістапада. 19.25**

**«ПЕСНЮ БЯРЫЦЕ З САБОЮ»**

**Тэлевізійны фестываль беларускай песні.**

**7 лістапада. 23.25**

**РАДАВОД**

**Фалькларны відэаканал. Тэма выпуску — нацыянальная культура і яе існаванне ва ўмовах міжнацыянальных зносін дзяржаў на сучасным этапе.**

**Пра малавядомы восеньскі абрад «Масляк» расказвае фалькларны ансамбль з Мядзельшчыны. Па шматлікіх просьбах тэлегледачоў пачынае сваё жыццё новая рубрыка — развучванне народных песень «Спеўкі».**

**11 лістапада. 11.50**

**«НАРАДЖАЕЦЦА КРЫНІЧКА»**

**Новы падручнік беларускай мовы для 1-га класа.**

**12 лістапада. 16.50**

**ВЫХАВАННЕ ДЭМАКРАТЫЯЙ**

**На пытанні тэлегледачоў адказвае народны дэпутат СССР А. Жураўлёў. Прамая лінія.**

**12 лістапада. 20.05.**

**ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ.**

**Вершы А. Грачанікава чытае артыст А. Вінярскі.**

---

**Міністэрства культуры БССР смуткуе з нагоды заўчаснай смерці дырэктара Міжсаюзнага Палаца культуры прафсаюзаў Валянціны Уладзіміраўны ШЧЫТЦОВАЙ і выказвае глыбокае спачуванне яе родным і блізкім.**

---

**Калектыў Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму бухгалтару Цэнтралізаванай бухгалтэрыі пры Міністэрстве культуры БССР Мядзюн Хрысціне Уладзіміраўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці МАЦІ.**

---

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку *Яўгену Каршукову* з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00449 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ: *прыёмнай рэдакцыі* — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.**